наша свабода

№138(225) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

19 СНЕЖНЯ 2001 года СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 284-36-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

# Пачынаецца суд над Чыгіром

19 снежня 2001 году ў 10.00 у судзе Ленінскага раёну г.Мінску пачнецца судовае паседжанне па крымінальнай справе Аляксандра Чыгіра – малодшага сына Міхаіла Чыгіра, былога прэм'ер-міністра Беларусі, аднаго з кандыдатаў на пасаду прэзідэнта на выбарах 2001 году.

Чыгір Аляксандр Міхайлавіч абвінавачваецца па арт. 205 ч. 3 Крымінальнага кодэксу РБ – у крадзяжы аўтамабіляў у асабліва буйным памеры, здзейсненым арганізаванай групай. Нагадаем, што Аляксандр Чыгір быў арыштаваны 10 лютага 2001 году ў 16.40 на аўтамабільным рынку ў Ждановічах. Юлія Чыгір, Аляксандрава маці, адразу выказала ўпэўненасць, што арышт малодшага сына – правакацыя, звязаная з удзелам Міхаіла Чыгіра ў палітыцы.

Паводле словаў адваката Дзмітрыя Іванішкі, «Аляксандр Чыгір сябе з самага пачатку вінаватым не прызнаваў і не прызнае. Вядома, што Аляксандр Чыгір займаўся гандлем запчасткамі, плаціў падаткі, парушэнняў за ім ніякіх не было».

**Інфармацыйны аддзел ПЦ «Вясна»**

# Вік з'язджае ў суботу

Кіраўнік Кансультацыйна-назіральнай групы (КНГ) АБСЕ ў Беларусі пасол Ханс-Георг Вік мае намер пакінуць Беларусь 22 снежня. Пра гэта ён паведаміў 18 снежня ў Мінску на паседжанні Кансультацыйнай рады апазіцыйных палітычных партыяў. Аднак кіравацъ дзейнасцю КНГ АБСЕ ў Беларусі пасол Вік, паводле яго словаў, будзе да 1 студзеня 2002 году. Потым, калі яму не прызначаць пераемніка, выконваць абавязкі кіраўніка групы будзе цяперашні намеснік Віка - Мішэль Рывальe.

Падводзячы вынікі свайго амаль 4-гадовага знаходжання ў Беларусі, пасол Вік адзначыў: «Галоўнае, чаго не змагла дамагчыся КНГ, гэта правядзення ў Беларусі свабодных і справядлівых выбараў».

**Уладзімір ГЛОД**

# Мінск гатовы да святкаванняў

Асноўныя навагоднія мерапрыемствы ў Мінску пройдуць з 30 снежня па 1 студзеня на праспекце Машэрава, плошчах Незалежнасці і Кастрычніцкай. Пра гэта паведаміў журналістам намеснік старшыні Мінгарвыканкаму Міхаіл Пятрушын.

Святкаванні распачнуцца 30 снежня апоўдні запальваннем агнёў на галоўнай ёлцы краіны, размешчанай на Кастрычніцкай плошчы. У гэтай цырымоніі возьме ўдзел старшыня Мінгарвыканкаму Міхаіл Паўлаў. Затым адбудзецца шэсце дзядоў-марозаў ад Кастрычніцкай плошчы да праспекта Машэрава, дзе пройдзе тэатралізаванае прадстаўленне з удзелам беларускіх артыстаў і выхаванцаў школ фігурнага катання. У шэсці возьмуць удзел каля 350 дзядоў-марозаў і снягурак з усіх раёнаў Мінску — амаль у два разы больш, чым летась. У гэты ж дзень, з 17 да 22 гадзін, на плошчах Кастрычніцкай і Незалежнасці пройдуць святочныя прадстаўленні для моладзі.

**Лавінія АРЭШКА**



Перадкалядны́мі днямі школьнікі прыйшлі на ўрок гісторыі да Навагрsucc замка

# Рука беларускага рэжыму дастае і да Уроцлава...

*Пераслед кіраўнікоў найбуйнейшых беларускіх дзяржаўных прадпрыемстваў не страчвае напалу*

21 снежня суд у польскім горадзе Уроцлаве будзе разглядаць справу пра экстрадыцыю ў Беларусь беларускага грамадзяніна Аляксандра Якаўлева.

Якаўлеў быў арыштаваны польскай паліцыяй 27 лістапада на падставе беларускага ордэра на арышт, датаванага красавіком гэтага году. Польскія ўлады не спяшаліся з арыштам беларуса, хоць ім было добра вядома, дзе ён знаходзіцца – Якаўлеў атрымаў права на часовае пражыванне ў гэтай краіне. Аднак цяпер суд відавочна спяшаецца: не прайшло і месяца ад часу арышту і ўзяцця пад варту Аляксандра Якаўлева, як суд збіраецца выносіць рашэнне па пытанні аб экстрадыцыі.

Звычайна такія справы цягнуцца месяцамі, а польскія суды не пачынаюць разгляду справаў аб выдачы беларусаў, не запытаўшы спярша ў беларускага боку ўсіх матэрыялаў справы, узбуджанае супраць абвінавачанага беларускага грамадзяніна. У гэтай краіне добра вядома цяперашняя сітуацыя ў Беларусі і гучныя справы аб экстрадыцыі вядомых беларускіх бізнесменаў, якіх пераследаваў беларускі рэжым. У выпадку Аляксандра Пупейкі і Леаніда Ваўка польскі суд адмовіў беларускаму боку, які прасіў іх выдаць. А сёлета ўлетку ў польскім друку і ў праваабарончых колах гучалі важкія галасы за абмежаванне падпісанае некалі з Беларуссю дамовы аб прававой узаемадапамозе.

Заканчэнне на стар.5

# Нарэшце зляпілі бюджэт

18 снежня Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі зацвердзіла ў другім чытанні праект бюджэту краіны на 2002 год. За прыняцце дакументу прагаласавалі 82 парламентары; 6 выказаліся супраць.

Папярэдне дэпутаты адмянілі вынікі галасавання па 24-м артыкуле бюджэту. Нагадаем, што па прапанове аграрнай камісіі ў гэты артыкул была ўнесена папраўка, якая павялічвала адлічэнні ў фонд вытворцаў сельгаспрадукцыі з 1 да 1,5% ад выручкі. Як паведаміў сёння міністр фінансаў Мікалай Корбут, урад падлічыў, што зацвярджэнне гэтай папраўкі павялічыла б паступленні ў даходную частку бюджэту на 141 мільярд рублёў, аднак агульная падатковая нагрузка на прадпрыемствы прамысловасці вырасла б на 0,7 працэнтнага пункта. Між тым, урад мае намер у 2002 годзе, наадварот, знізіць гэты паказчык на 2,3%, у тым ліку скараціўшы падатак на прыбытак з 30 да 24%. Акрамя таго зацвярджэнне гэтай папраўкі запатрабавала б пералічвання ўсёй расходнай часткі бюджэту.

За зняцце папраўкі ўрад паабяцаў парламентарыям у наступным годзе ў выпадку атрымання дадатковых даходаў накіраваць іх на падтрымку АПК, а таксама знізіць адзіны падатак з вытворцаў сельгаспрадукцыі з 5 да 2%.

Такім чынам, са 121-й дэпутацкай папраўкі ў асноўны фінансавы дакумент краіны на 2002 год бюджэтная камісія падтрымала ўсяго 14. Так, напрыклад, камісія падтрымала прапанову павялічыць фінансаванне сялянскіх і фермерскіх гаспадарак на 200 мільёнаў рублёў, не збіраць з арганізацый падатку з карыстальнікаў аўтамабільных дарог у памеры сум, якія накіроўваюцца імі на будаўніцтва жылля для вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі. Мясцовым Саветам даецца магчымасць вызначаць асобным платнікам ільготы.

У апошнім варыянце даходная частка бюджэту склала 3 трыльёны 893 мільярды 666 мільёнаў рублёў, а расходная — 4 трыльёны 238 мільярдаў 416 мільёнаў рублёў. Бюджэтны дэфіцыт запланаваны ў памеры 344 мільярды 750 мільёнаў рублёў (1,5% ад ВУП).

**Юрый ПАЦЁМКІН**



ВЕСТКІ



## Дэфіцыту на святы не будзе

У міністэрстве гандлю даводзяць, што харчовага дэфіцыту перад Новым годам не будзе. Пастаўкі прадуктаў у крамы можна павялічыць удвая. У запасах – 6 тысяч тон масла, 2,5 тысячы тон сыроў, 71 тысяча тон бульбы, 47 тысяч тон гароднiны.

## Пераднавагодні скачок коштаў

Паводле звестак міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, за першы тыдзень снежня рост спажывецкіх коштаў у нашай краіне склаў 1,7%. Гэта ўдвая болей, чымсьці ў першы тыдзень лістапада, калі кошты павялічыліся на 0,7%. За аналагічны перыяд кастрычніка гэты паказчык склаў 1%, верасня — 0,4%. Усяго з пачатку году спажывецкія кошты ў Беларусі выраслі на 40,9%.

## Генерал на хакеі

Міністр унутраных справаў Беларусі Уладзімір Навумаў, які некалькі тыдняў таму стаў прэзідэнтам Федэрацыі хакея Беларусі, наведае міжнародны хакейны турнір «Кубак «Балтыкі», які пачаўся 18 снежня ў Маскве.

## Бабруйск наркаманізуецца

У Бабруйску адзначаны рэзкі рост нарказлачынстваў. За 9 сёлетніх месяцаў зафіксавана 188 злачынстваў, звязаных з незаконным абаротам наркотыкаў. Год таму іх было на 90% менш. Сёлета да крымінальнай адказнасці за захоўванне, ужыванне альбо збыт толькі гераіну ў Бабруйску прыцягнута 125 чалавек.

## Швейцарскія гастролі

Мінскі струнны квартэт з 10 па 16 снежня знаходзіўся ў Швейцарыі на гастролях, арганізаваных Таварыствам дружбы Ааргау-Беларусь і Дэпартаментам культуры, адукацыі і спорту кантона Ааргау. Беларуская музыкі далі 5 канцэртаў у гарадах Бругу, Басвілі, Цафінгене і Бадэне.

## Энергакрадзяжы

Паводле інфармацыі канцэрну «Белэнерга», сёлета праведзена болей за 25 тысяч рэйдаў па выкрыцці фактаў крадзяжу электрычнай і цеплавой энергіі. Выявілася, што энергіі скрадзена на суму амаль 4,5 мільярды рублёў.

НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

## Курс наяўнага даляра на «чорным рынку»

1580

ЗДАРЭННІ

## Кантрабандная партыя вясельных сукенак

Памежнікі Пінскага атрада прадухілілі чарговую спробу кантрабанднага ўвозу на тэрыторыю Беларусі або правозу цераз тэрыторыю краіны партыі тавараў.

17 снежня пры аглядзе пасажырскага цягніка «Львоў - Санкт-Пецярбург» пагранічным нарадам было выяўлена 200 метраў тканіны і 15 вясельных сукенак. Гаспадара кантрабанднага грузу выявіць не ўдалося. Тканіна і сукенкі перададзены ў мытныя органы і ацэнены прыкладна ў 3 мільёны 400 тысяч рублёў.

Вячаслаў БУДКЕВІЧ

## Збітыя на сямейным скандале

Падчас разбору па выкліку на сямейны скандал сур'ёзна пацярпелі два супрацоўнікі Бярозаўскага райаддзела міліцыі (Брэсцкая вобласць). Старшы сяржант з чэрапна-мазгавой траўмай і страсеннем мазгоў 17 снежня пампешчаны ў бальніцу, яго напарнік - лейтэнант міліцыі - не шпіталізаваны, аднак ён таксама пацярпеў, атрымаўшы цялесныя пашкоджанні.

Як паведамілі БелаПАН у Бярозаўскай пракуратуры, якая праводзіць расследаванне па гэтаму факту, 16 снежня вечарам два супрацоўнікі міліцыі выязджалі на сямейны скандал. Што адбылося, у дэталях пакуль невядома, аднак 43-гадовы гаспадар кватэры па вуліцы Глінскага ў Белаазёрску і два яго сыны, 1979-га і 1983 года нараджэння, збілі работнікаў міліцыі. Апошнія вымушаны былі ратавацца ўцёкамі; табельную зброю яны не прымянялі. Зараз пракуратура праводзіць расследаванне, крымінальная справа пакуль не ўзбуджана. Бацька і сыны, у якіх узнік канфлікт з супрацоўнікамі міліцыі, знаходзяцца на волі.

Валянціна КАЗЛОВІЧ

## Праведовы злодзей

У Крычаве прадухілена спроба вывазу за межы рэспублікі 500 кілаграмаў алюмініевых правадоў.

Правады былі знойдзены 14 снежня ў маршрутным рэйсавым аўтобусе «Бабруйск–Масква». Метал канфіскаваны, вядзецца расследаванне.

Як стала вядома, у той жа дзень у Горацкае РАУС паступіла паведамленне аб знікненні 270 метраў электраправадоў з дзеючай лініі электраперадач каля вёскі Чаплееўка. Ва ўчыненні злачынства падазраецца 20-гадовы непрацуючы жыхар Мсціслава.

Канстанцін УВАРАЎ

## Брэсцкая парнаграфія

У мінулыя выхадныя супрацоўнікамі ўпраўлення па норавах і незаконным абароце наркотыкаў УУС Брэсцкага аблвыканкаму затрыманы непрацуючы брастаўчанін, які абвінавачваецца ў звадніцтве. Устаноўлена, што 28-гадовы Н. на працягу гэтага году — са студзеня па снежань — прапаноўваў паслугі секс-бізнесу па тарыфе 1 гадзіна — 25 даляраў. Прадпрымальнік С. у пункце пракату брэсцкага фізкультурна-аздараўленчага комплексу прадаваў кампакт-дыскі з парнафільмамі.

Як паведамілі БелаПАНу ва ўпраўленні па норавах і незаконным абароце наркотыкаў, сёлета ўзбуджана каля дзесятка спраў па артыкуле «сутэнёрства» і першая — за рэалізацыю порнапрадукцыі. Што тычыцца сапраўдных маштабаў такіх з'яў, як праастытуцыя і парнаграфія, то, паводле словаў аднаго з супрацоўнікаў упраўлення, «калі іх абнародаваць, то сёй-той страціць свае партфелі». Апрача таго, зазначаюць ва ўпраўленні, справы па гэтых артыкулах давесці да суду бывае вельмі цяжка; як правіла, яны рассыпаюцца з-за недасканаласці беларускага заканадаўства.

Валянціна КАЗЛОВІЧ

## Цяпло на мільёны

Як паведамілі ва ўпраўленні міністэрства па надзвычайных сітуацыях па Брэсцкай вобласці, з наступленнем халадоў печы пачалі паліць нават у тых вясковых хатах, дзе ёсць газавае ацяпленне. Значна часцей сталі паліць лазні, многія з якіх пабудаваны з парушэннямі правілаў пажарнай бяспекі. Напрыклад, прычынай пажару лазні ў Брэсце стала спроба адаграваня замерзлых труб паяльнай лямпай. Страты склалі мільён рублёў. А ў вёсцы Заполле Пінскага раёну прычынай пажару ў лазні стала парушэнне правілаў і пры наладжванні, і пры эксплуатацыі пячнога ацяплення. У гэтым выпадку матэрыяльныя страты склалі 750 тысяч рублёў.

БелаПАН

## Беларуская культура ў Парыжы

Вядомы французскі кутюр'е і мецэнат, пасол добрай волі *UNESCO* П'ер Кардэн згадзіўся падтрымаць правядзенне Тыдня беларускай культуры ў Парыжы, які мае прайсці з 15 па 21 красавіка 2002 году.

Як паведаміла кіраўнік прэс-службы міністэрства культуры Алена Рыжыкава, на мінулым тыдні міністр культуры Леанід Гуляка правёў у Парыжы перамовы са сп.Кардэнам па пытаннях матэрыяльна-фінансавага забеспячэння творчай акцыі.

У адпаведнасці з папярэдняй дамоўленасцю, у тыдні могуць узяць удзел Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа, салісты Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы Беларусі, вядомыя музыканты-інструменталісты і мастакі. Падчас правядзення акцыі адбудуцца канцэрты беларускіх артыстаў і адкрыццё выставы айчынных мастакоў пад умоўнай назвай «Нашчадкі Шагала». Гэты вернісаж будзе разгорнуты ў адной з заляў Цэнтру П'ера Кардэна.

Тэатр імя Якуба Коласа прывязе для парыжанаў спектакль «Шагал... Шагал», пастаўлены заслужаным дзеячам мастацтваў Беларусі Віталіем Баркоўскім у 1999 годзе. Спектакль адзначаны прызамі міжнародных тэатральных фестываляў — Эдынбургскага (Вялікабрытанія) і «Белай вежы» (Брэст, 2001 год).

Марат ГАРАВЫ

СТАСУНКІ

## Беларуская ўласнасць у Беластоку

Асобны двухпавярховы будынак агульнай плошчай 684 квадратныя метры набыло ва ўласнасць у Рымска-каталіцкай парафіі св.Война у Беластоку генеральнае консульства Беларусі ў Беластоку.

Ён пабудаваны ў першай палове 90-х гадоў і перададзены ў эксплуатацыю ў 1995 годзе. Будынак размешчаны ў Беластоку па адрасе: вуліца Электрычна, 9, у цэнтры зямельнага ўчастка плошчай 0,1427 га, які таксама набыты ва ўласнасць. Як паведаміў прэс-сакратар МЗС П.Латушка, у ім ёсць магчымасць размясціць жылыя памяшканні, працоўныя кабінеты, залю для афіцыйных прыёмаў на паўсотні месцаў. Цокальны паверх можна выкарыстаць пад бібліятэку і архіў, а таксама для прыёму наведнікаў.

Андрэй АСМАЛОЎСКІ

## Пажары забралі амаль тысячу жыццяў

15 чалавек сталі ахвярамі 168 пажараў, што адбыліся ў мінулыя выхадныя ў Беларусі.

Колькасць тых, хто загінуў у агні з пачатку года, няўхільна набліжаецца да тысячы і, хутчэй за ўсё, дасягне гэтай сумнай адзнакі ў найбліжэйшыя дні.

Па-ранейшаму асноўнымі прычынамі пажараў застаецца неасцярожнае абыходжанне з агнём, і ў першую чаргу неасцярожнасць пры курэнні, як правіла, у стане алкагольнага ап'янення.

Менавіта з гэтай прычыны згарэлі ў нядзелю двое мужчын у вёсцы Галынка Клецкага раёна. Пажар узнік у невялікім металічным вагончыку — памяшканні вартаўніка, дзе яны абодва спалі.

Дзмітрый БЕЛЬСКІ

ЭКАНОМІКА

## Хлебная экспансія Расіі

Усходнія раёны Магілёўскай вобласці, сутыкнуўшыся з праблемай экспансіі больш таннага расійскага хлеба, вырашылі змагацца за свой рынак шляхам зніжэння цаны на прадукцыю.

Згодна з інфармацыяй аб'яднання «Магілёўхлебпрам», на мінулым тыдні цэны на хлеб масавых гатункаў у Клічаўскім, Крычаўскім і Касцюковіцкім раёнах зніжаны ў сярэднім на 8 працэнтаў. Зараз 700-грамовы бохан чорнага хлеба ў гэтых раёнах каштуе каля 350 рублёў, што адпавядае цане на хлеб расійскай вытворчасці, які завозяць на раённыя рынкі камерсанты.

Канстанцін УВАРАЎ

## Дэпутаты і фермер

Пракурор Гомельскай вобласці Алег Палавінка не выключае, што пытанне аб вяртанні вядомаму палескаму фермеру Міхаілу Шрубу выдзеленай яму зямлі можа быць вырашана сесіяй абласнога Савету дэпутатаў.

13 снежня сесія Жыткавіцкага раённага Савету дэпутатаў адхіліла пастанову калегіі Камітэту дзяржкантролю Гомельскай вобласці і пратэст абласнога пракурора з патрабаваннем адмяніць як незаконнае рашэнне Жыткавіцкага райвыканкаму ад 30 жніўня 1999 года, згодна з якім у фермера Шрубы было канфіскавана 179 гектараў зямлі, прадастаўленых яму ў доўгатэрміновую арэнду год таму.

Пракурор вобласці Алег Палавінка заявіў БелаПАНу, што пракуратура «на ўзроўні ўлады вырашыць гэтае пытанне». Ён лічыць, што аднавіць правы фермера на карыстанне арандаванай зямлёй пад сілу дэпутатам абласнога Савету; у іншым выпадку давядзецца звяртацца ў суд.

Ірына ШАНЦАВА

## На Чарнобыль у свеце не забываюцца

56-я сесія Генеральнай Асамблеі ААН, якая праходзіць у Нью-Йорку, аднагалосна ўхваліла рэзалюцыю "Умацаванне міжнароднага супрацоўніцтва і каардынацыя намаганняў у справе вывучэння, змякчэння і мінімізацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы».

Да ліку суаўтараў гэтага дакумента, ініцыяванага дэлегацыямі Рэспублікі Беларусь, Расійскай Федэрацыі і Украіны, далучыліся 34 дзяржавы — сябры ААН, якія прадстаўляюць усе рэгіянальныя групы.

Рэзалюцыя пацвердзіла доўгатэрміновы характар наступстваў чарнобыльскай катастрофы, якая з пункту гледжання яе маштабаў і цяжкасці з'явілася беспрэцэдэнтнай тэхнагеннай аварыяй і пацягнула за сабой гуманітарныя, экалагічныя, сацыяльныя, эканамічныя і медыцынскія наступствы, якія патрабуюць для свайго вырашэння шырокага і актыўнага міжнароднага супрацоўніцтва і каардынацыі намаганняў.

Рэзалюцыя прапануе ўсім дзяржавам, а таксама адпаведным установам, фондам і праграмам сістэмы ААН надалей аказваць падтрымку намаганням, якія прадпрымаюць Беларуссю, Расійскай Федэрацыяй і Украінай, як найбольш пацярпелымі краінамі, з мэтай змякчэння наступстваў чарнобыльскай катастрофы, у тым ліку шляхам прадастаўлення дадатковых сродкаў на падтрымку медыцынскіх, сацыяльных, эканамічных і экалагічных праграм, звязаных з чарнобыльскай аварыяй.

Андрэй АСМАЛОЎСКІ

## СССР частавала віном

15 снежня ў прыватнай гродзенскай галерэі «Раскоша» адкрылася выстава карцін трох мастакоў. Яны аб'ядналіся пад вядомай абрэвіятурай СССР. Расшыфроўваецца яна наступным чынам: Суполка Сурава (Алеся), Стратовіча (Валерыя) і Рамашкі (Вацлава). Наведнікаў на адкрыцці было як селядцоў у бочцы.

Паненкам прапаноўвалі віно, а мужчынам – вядомую магілёўскую гарэлку «СССР». Да выставы аўтары падрыхтавалі больш за 30 карцін. Кошты – памяркоўныя.

Сяргей МАКСІМОВІЧ

АКЦЫІ

## Запабегчы тэрарызму

17 снежня Цэнтр інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ Беларусі распаўсюдзіў прэс-рэліз аб праведзеных у перыяд з 4 па 7 снежня сумесных аператыўна-тактычных вучэннях КДБ і МУС Беларусі пад умоўнай назвай «Заслон».

«Трагедыя Нью-Йорку паказала, што для тэрарызму не існуе межаў: ні дзяржаўных, ні маральна-этычных, — зазначаецца ў прэс-рэлізе. — А таму для спецыяльных службаў і праваахоўных органаў на першы план стаі выходзіць пытанні супрацьдзеяння дыверсійна-тэрарыстычным праявам». ЦІГС са шкадаваннем зазначае, што «інфармацыя пра ход вучэнняў не ўсімі ўспрынята належным чынам: не-не дый прамільгнуць шкадаванні аб велізарных і бессэнсоўных затратах... Практыка ж паказвае, што там, дзе гатовы эканоміць на пытаннях бяспекі і выказваюць жаданне расслабляцца... грымяць рэальныя, а не вучэбна-трэніровачныя выбухі».

Такія маштабныя вучэнні ў Беларусі былі праведзены ўпершыню. Мэтай іх была адпрацоўка ўзаемадзеяння КДБ, МУС і органаў улады па прадухіленні тэрарыстычных актаў на аб'ектах нафтахімічнай прамысловасці і паліўна-энергетычнага комплексу. Падчас вучэнняў былі атрыманы і нечаканыя спадарожныя вынікі: затрыманы 13 нелегальных імігрантаў з Афганістану, Індыі і Пакістану, сярод якіх ёсць і асобы, што адшукваліся за ўчыненыя злачынствы.

Юрый КАСЬЯНАЎ

СЕМІНАР

## Прафілактыка ВІЧ-інфекцыі

19-20 снежня ў Мінску пройдзе семінар па прафілактыцы ВІЧ-інфекцыі для старшыняў абласных і гарадскіх міжведамасных радаў. Яго арганізатары – Рэспубліканскі цэнтр прафілактыкі СНІДу (РЦПС) і Прадстаўніцтва ААН у Беларусі. Удзельнікі семінару вызначаць ролю міжведамасных радаў па прафілактыцы ВІЧ-інфекцыі ў распрацоўцы і рэалізацыі праграм супрацьдзеяння распаўсюджванню эпідэміі ВІЧ/СНІД.

Паводле звестак РЦПС, на 1 снежня ў Беларусі выяўлена 3 тысячы 840 ВІЧ-інфікаваных. Лідэрамі тут Гомельская вобласць, дзе зарэгістравана каля 170 носьбітаў ВІЧ-інфекцыі на 100 тысяч насельніцтва, і Мінск – каля 29 таксама на 100 тысяч. За 11 месяцаў гэтага году быў выяўлены 561 выпадак заражэння ВІЧ, што на 4% больш, чым за ўвесь 2000 год. Пераважную большасць пры гэтым (звыш 80%) складаюць маладыя людзі ў веку да 40 гадоў.

Вольга АСІПЕНКА

ФОТАДЗЕНЬ




На Мінскім моры рыбакі падобныя да пінгвіноў

## Эканомія энергіі

Спецыялісты Інстытуту праблем энергетыкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі распрацавалі і вырабілі эксперыментальны ўзор парагенератара насычанай пары УПГ-0,2-0,15, прызначанага для утылізацыі цяпла зыходзячых газаў.

На думку вучоных, за кошт гэтага цяпла Беларусь можа эканоміць у ацяпляльны перыяд мільёны даляраў. Кругласутачна на прадпрыемствах краіны ў атмасферу выкідаюцца тысячы кубаметраў высокатэмпературных газаў, энергіі якіх хапіла б для абагравання 200-тысячнага гораду.

Зроблены ў Інстытуце праблем энергетыкі парагенератар мае простую канструкцыю і невысокі кошт – 7 800 даляраў. Яго эксперыментальная эксплуатацыя праводзіцца на хлебазаводзе № 1 ВА «Гомельхлебпрам».

Юрый КАСЬЯНАЎ

# Нам зваліўся расійскі крэйсер

На мінулым тыдні беларускія афіцыйныя мас-медыя паведамілі, што Мінскі гарвыканкам разам з адміністрацыяй Ленінскага раёну сталіцы ўзялі шэфства над расійскім крэйсерам што б прыносіла эканамічную карысць дзяржаве? Адзінае, што ён робіць - гэта прымае рашэнні, ад якіх нешта можа залежаць. Напрыклад, памер мясцовага падатку. Або дазвол на арэнду якога-небудзь памяшкання. Гэтыя пытанні, безумоўна, маюць пэўную эканамічную вартасць. Аднак не для гэтага чыноўніка (калі ён, вядома, сумленны чалавек), а для дзяржавы.

**«Маршал Устинов».**
*Дзяржаўная журналістка распісвала, якія падарункі прывезлі беларускія «шэфы» маракам гэтага судна, што базуецца ў Мурманску. «Многія сталічныя прадпрыемствы, камерцыйныя структуры ўнеслі сваю лепту ў гэтую шляхетную справу — «Камунарка», «Элема», Мінскі велазавод, які падараваў маракам велатрэнажоры. Апроч таго... з дапамогай беларусаў карабель набыў новы выгляд: перафарбаваныя ўсе ягоныя часткі... Мяркуецца, што ў самай бліжэйшай будучыні з маракамі крэйсера «*Маршал Устинов*» сяброўскую перапіску наладзяць вучні некалькіх сталічных школаў і ПТВ».*

Скончым цытаванне - усё і так зразумела — і паспрабуем крыху паразважаць. Найперш — пытанне: якія такія даброты выробляе звычайны беларускі чыноўнік? Што ён робіць такога,

І вось цяпер адкажыце: за якія такія грошы мы сябруем з ваенна-марскім флотам іншай, зусім, здавалася б, незалежнай дзяржавы? За чый кошт робім падарункі?

Няўжо на ўсіх пералічаных прадпрыемствах настолькі добра ідуць справы, што яны могуць дазволіць сабе раздаваць падарункі направа і налева? Хутчэй за ўсё, не — проста на кіраўніцтва прадпрыемстваў, відаць, добра націснулі «з цэнтру» і прапанавалі добраахвотна-прымусова ахвяраваць на інтэрнацыянальнае сяброўства. З начальствам, як вядома, спрачацца не варта — сабе даражэй. Але няўжо ў Беларусі не засталося дзіцячых дамоў або прытулкаў для дзяцей, дзе патрабуецца сапраўдная шэфская дапамога? Ім бы лепш дапамаглі, а не дарослым вайскоўцам з міністэрства абароны Расіі. І фарба, і цукеркі, і вопратка, і трэнажоры — усё пайшло б на карысць маленькім грамадзянам Беларусі, якія засталіся без бацькоўскага догляду і пяшчоты.

Праўда, ёсць тут адзін нюанс, якога нельга абмінуць увагай. Думка пра шэфства з'явілася ў гарвыканкамаўскіх галовах не сама сабою. Ідэю ўзяць шэфства над адным з караблёў Паўночнага флоту выказаў падчас падарожжа ў Мурманск Аляксандр Лукашэнка. Пасля ў развіццё гэтай прапановы праходзілі перамовы Уладзіміра Ярмошына (тады — прэм'ер-міністр) і мэра Мінску Міхаіла Паўлава з кіраўніцтвам Паўночнага флоту, на якіх былі ўдакладненыя «ўсе дэталі супрацоўніцтва».

Так што цяпер у беларускага кіраўніцтва ёсць усе падставы ганарыцца: шэфства ўзялі над такім вялікім караблём, ды яшчэ і з назвай надта добрай – амаль «Назад у СССР!» Цяпер можна час ад часу наведваць «Маршала», піць гарэлку і «балтыйскую гарбату» з падшэфнымі адміраламі і капітанамі розных рангаў, а можа, і па моры паплаваць, мо нават пастраляць з гарматаў...

Вось толькі незразумела, што Беларусь атрымае ад гэтага супрацоўніцтва. Права пераводзіць дзяржаўныя грошы на далёкія камандзіроўкі абмежаванага кола чыноўнікаў? Або права на нейкую частку карабля, якая стане «ўмоўна беларускай»?

Зусім нядаўна беларускі кіраўнік падпісаў указ, якім рэгламентаваў прыкладную колькасць і структуру органаў дзяржаўнага кіравання. Указ, паміж іншага, прадугледжвае скарачэнне чынавенства на 10%. Мы б вельмі хацелі, каб у гэтыя самыя 10% патрапілі ініцыятары і арганізатары гэтага бязглуздага «супрацоўніцтва». Можа, тады новыя рашэнні беларускага чынавенства будуць мець больш людскага сэнсу.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## Нечаканае рашэнне палякаў

Польшча адмяніла абмежаванні пры перасячэнні дзяржаўнай мяжы з Беларуссю, якія тычыліся грузавых і грузапасажырскіх мікрааўтобусаў.

Нагадаем, што 3 верасня гэтага году польская памежная варта спыніла пропуск грузавых і грузапасажырскіх мікрааўтобусаў праз дзяржаўную мяжу ў адзін бок у асобных пагранічных пунктах пераходу, у тым ліку ў пункце «Варшаўскі мост». Падставай для гэтага называлася распараджэнне мінтранспарту і марской гаспадаркі Польшчы. На просьбу беларускіх памежнікаў растлумачыць, што сталася прычынай такога рашэння, быў атрыманы адказ, з якога вынікала, што грузавыя і грузапасажырскія мікрааўтобусы павінны перасякаць мяжу толькі ў тых пунктах пропуску, якія прыстасаваны для праверкі грузавога транспарту, – гэта значыць, толькі ў пунктах «Казловічы» і «Брузгі» (Гродзенская вобласць). Тым, хто не пажадае стаяць у кіламетровых чэргах на грузавыя аўтапераходы, палякі прапанавалі звяртацца па спецыяльны дазвол у Галоўную камендатуру Памежнай варты. Прычым заяву з указаннем мэты паездкі з падрабязным тлумачэннем эканамічных і фінансавых інтарэсаў трэба падаваць за 30 дзён да запланаванага перасячэння мяжы; дазвол жа – аднаразовы.

Як паведамілі БелаПАНу ў Брэсцкай памежгрупе, «палякі прынялі такое рашэнне нечакана, перакрыўшы для мікрааўтобусаў каналы ў 20 гадзін вечара, а потым таксама нечакана яго адмянілі без папярэдніх паведамленняў». Як лічаць беларускія памежнікі, рашэнне аб адмене абмежаванняў для грузавых і грузапасажырскіх мікрааўтобусаў «не проста правільнае, але і неабходнае». Улічваючы, што пункт пропуску «Брузгі» часова закрыты, на грузавым пераходзе «Казловічы» ўтвараюцца шматкіламетровыя чэргі.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

## СВОЙ ГОЛАС

***— На самай старажытнай вуліцы Мінску Нямізе, насупраць «Гандлёвага дому» інтэлігенцыя прапанавала пабудаваць музей, а беларускія «новыя рускія» – пяціпавярховы паркінг. Як, на Вашую думку, які праект пераможа ў Мінгарвыканкаме?***



**Вольга, выкладчыца англійскай мовы:**
— Там такі раён, што, па-мойму, ніякіх паркінгаў быць не павінна. Там Траецкае прадмесце побач, цэрквы і іншае... Я спадзяюся, што гараджане выступяць за музей, бо паркінгі ж можна ў іншым месцы наляпіць.



**Аркадзь, школьны настаўнік:**
— Ну, канечне ж, паркінг пераможа. Што тут тлумачыць? Усё ж ясна – грошы!



**Андрэй Ціхаміраў, супрацоўнік грамадскага фонду «Дзецям Чарнобыля»:**
— Лепш было б музей, бо музеяў у нас не так шмат добрых. У нас шмат заможных грамадзян, і я спадзяюся, што яны неяк укладуць свае грошы ў пабудову музея.



**Ян, студэнт:**
— А хто яго ведае... Там жа ёсць некалькі здаровых людзей, у гэтым Мінскім гарвыканкаме? Адны проста як звычайна прагаласуюць, а іншыя... Я не ведаю, хто пераможа.



**Людміла Уладзіміраўна, працуе ў дзіцячым садку:**
— Вы ведаеце, я жадала б там бачыць паркінг, і я думаю, што менавіта ён там і будзе.



**Генадзь Анатольевіч, пенсіянер:**
— Ой, божа мой, як яны пажадаюць, так і зробяць, і слухаць нікога не будуць.



**Руслан, бізнесмен:**
— Ой, не ведаю, цяжка сказаць. Трэба будаваць тое, што на практыцы больш патрэбна для гораду, а там бачна будзе.



**Андрэй Мікалаевіч, працуе ў Доме друку:**
— Як на маё меркаванне, дык пераможа праект музея, і я за гэты праект аддаў бы голас.



**Кацярына, працуе ў МДЛУ:**
— Пераможа, хутчэй за ўсё, праект паркінгу, але хацелася б, каб перамог праект музея. Проста эканамічны фактар адыграе рашучую ролю.

**Апытанне праводзілі Аляксей СТАЎСКІ і Уладзімр ШЛАПАК (фота).**

***Правільны адказ глядзі на стар.7***

# Беларусь пакуль адмаўляецца ад саюзнага парламенту з Расіяй

Савет ніжняй палаты Нацыянальнага сходу Беларусі вырашыў выключыць з парадку дня бягучай сесіі законапраект «Аб выбарах дэпутатаў палаты прадстаўнікоў парламенту Саюзнай дзяржавы першага склікання ад Рэспублікі Беларусь». Законапраект планавалася разгледзець у канчатковым, другім чытанні.

Рашэнне савету Палаты прадстаўнікоў беларускага парламенту прайшло следам за заявай міністра замежных справаў Беларусі Міхаіла Хвастова, зробленай ім падчас апошняй прэс-канферэнцыі: «Я думаю, што саюзны ўрад, які збярэцца 25 снежня ў Маскве, падтрымае тыя напрацоўкі, якія былі зробленыя, а прэзідэнты на Вышэйшым Дзяржсавеце іх ухваляць. Што тычыцца палітыкі адносінаў, прэзідэнты вырашылі не паскараць працэсаў чыста палітычнага характару і, што важна, не мяняць дамовы, якою створана Саюзная дзяржава, а дзейнічаць у яе межах. Сёння вядзецца прапрацоўка Канстытуцыйнага акту. Я думаю, што гэта будзе працэс, які будзе развівацца граматна і непаспешліва».

Камісія Палаты прадстаўнікоў па дзяржаўным будаўніцтве, мясцовым самакіраванні і рэгламенце, як паведаміў савету палаты галава гэтай камісіі Міхаіл Сасонка, лічыць, што яшчэ надта рана прымаць законапраект пра выбары ў саюзны парламент да падпісання Канстытуцыйнага акту Саюзнай дзяржавы і ўнясення адпаведных змяненняў у Канстытуцыю Беларусі і Расіі. М.Сасонка не растлумачыў, чаму камісія прыйшла да такой высновы за пару дзён да канчатковага, другога чытання законапраекту.

Старшыня Палаты прадстаўнікоў Вадзім Папоў нагадаў, што пытанне пра Канстытуцыйны акт будзе разгледжана 26 снежня ў Маскве на паседжанні Вышэйшага Дзяржаўнага савету Саюзнай дзяржавы. Між тым віцэ-спікер Уладзімір Канаплёў у той самы дзень заявіў, што Беларусь і Расія пабудуюць «вельмі шчыльны саюз ва ўсіх кірунках, але такога зліцця, як адбылося паміж Усходняй і Заходняй Германіямі, не будзе». Аднак напярэдадні, у пятніцу, прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка сказаў, што «Мінск пойдзе так далёка ў саюзе дзвюх дзяржаў, наколькі гатовая пайсці Расія».

А.Лукашэнка абсалютна не выключыў паўтору варыянту «ГДР+ФРГ»: «Калі Расія гатовая на цывілізаваных, міжнародна прызнаных прынцыпах роўнасці правоў ісці да Саюзнай дзяржавы з адзіным парламентам і адзінымі органамі кіравання, перадаючы ім частку паўнамоцтваў, мы таксама падрыхтаваныя да гэтага. Калі ж яна не гатовая, то ніхто не прымусіць яе зрабіць гэта», – сказаў А.Лукашэнка.

Нагадаем, што на тэрыторыі былой ГДР было ўтворана некалькі новых земляў ФРГ, прычым экс-ГДРаўскія землі маюць прадстаўніцтва ў саюзным парламенце (Бундэстагу) і адзіных органах кіравання аб'яднанай Германіі. Аднак беларускі лідэр падкрэсліў, што інтарэсы Беларусі ў працэсе стварэння саюзнай дзяржавы «ў любым выпадку не будуць ушчэмленыя».

Зрэшты, А.Лукашэнка лічыць, што вакол беларуска-расійскіх адносінаў цяпер існуе «зашмат плётак». Адначасова ён прызнаў, што «цяпер з расійскага боку ідуць вельмі жорсткія перамовы на ўзроўні прэзідэнтаў, урадаў і экспертаў». Каментуючы па просьбе «Ю.С.Ньюс» перспектывы стварэння саюзнага парламенту Расіі і Беларусі ў сувязі з супярэчлівымі заявамі прэзідэнта А.Лукашэнкі і ягонага міністра замежных справаў, У.Канаплёў сказаў, што беларускі бок выступае «за саюз з Расіяй, але пры захаванні самастойнасці абедзвюх краін». «Мы не ўвойдзем у склад іншай дзяржавы», – падкрэсліў віцэ-спікер.

Адказваючы на пытанне «Ю.С.Ньюс» пра перспектывы прыняцця Канстытуцыйнага акту, які рэгламентуе стварэнне Саюзнай дзяржавы, У.Канаплёў выказаў меркаванне, што «шмат высветліцца пасля сустрэчы прэзідэнтаў дзвюх краін у канцы снежня ў Маскве». Пры гэтым віцэ-спікер адзначыў, што асабіста ён выступае «за саюзны парламент» і за тое, каб там былі саюзныя грошы і мы маглі вырашаць саюзныя пытанні на карысць і Беларусі, і Расіі».

Знамянальна, што ў нядзелю ўдзельнікі грамадска-палітычнага руху «Саюз» заклікалі прэзідэнтаў Расіі і Беларусі правесці выбары ў саюзны парламент не пазней за вясну 2002 году. Адзін з удзельнікаў руху – старшыня Расійскага грамадзянскага саюзу Сяргей Бабурын – адзначыў, што саюз Расіі і Беларусі – гэта стрыжань інтэграцыі на постсавецкай прасторы. «Фактычна мы да гэтай пары жывём у Савецкім Саюзе», – сказаў старшыня руху Георгій Ціханаў.

У СССР таксама шмат што планавалі, але гэта не здзяйснялася. Пасля таго, як савет Палаты прадстаўнікоў беларускага Нацыянальнага сходу паставіў зняць з разгляду праект закону аб выбарах у саюзны парламент, стала відавочным, што жаданне правесці такія выбары не пазней за вясну наступнага году гэткае ж немагчымае, як паварот паўночных рэк на поўдзень ці рэалізацыя праграмы «Жытло-2000». Але калі разумець пад кожнай савецкай сям'ёй кожную рэспубліку экс-СССР, то асобныя кватэры яны ўсё ж атрымалі задоўга да 2000 году.

Вось толькі спадары Ціханавы і Бабурыны гэтага да сёння яшчэ не ўсвядомілі.

**Агенцтва «Ю.С.Ньюс» (yusnews.info)**

# Увекавечылі Цанаву

Кароткі біяграфічны даведнік «Генералы органаў дзяржаўнай бяспекі Беларусі» пабачыў свет .

У даведніку ўтрымліваюцца кароткія біяграфічныя звесткі пра генералаў структураў дзяржбяспекі, якія праходзілі службу ў Беларусі. У кнізе «знайшлі адлюстраванне асноўныя і найбольш характэрныя для таго ці іншага гістарычнага перыяду этапы дзейнасці структур дзяржбяспекі ў Беларусі».

Пры падрыхтоўцы выдання былі выкарыстаныя матэрыялы архіву КДБ Беларусі, яго тэрытарыяльных управаў, управы ваеннай контрвыведкі, а таксама Федэральнай службы бяспекі Расіі. Як паведаміў «Інтэрфаксу» кіраўнік групы аўтараў-складальнікаў даведніка, намеснік старшыні камітэту па пытаннях бяспекі Саюзнай дзяржавы генерал-маёр Іван Юркін, унікальнасць гэтага даведніка ў тым, што ў ім пададзеныя кароткія біяграфіі ўсіх генералаў дзяржбяспекі і кіраўнікоў-чэкістаў (якія не мелі генеральскіх званняў, але па службовым становішчы могуць прыраўноўвацца да генералаў), якія служылі на тэрыторыі рэспублікі з 1918 па 2001 год.

Паводле словаў І.Юркіна, каштоўнасць маюць не толькі біяграфічныя звесткі, што змяшчаюцца ў даведніку, але і гістарычная ацэнка шляху, пройдзенага тут органамі дзяржбяспекі.

Згадваючы пра дзейнасць КДБ Беларусі, І.Юркін адзначыў, што за часамі свайго існавання ў якасці нацыянальнай спецслужбы камітэт «дасягнуў істотных самастойных вынікаў». На думку генерала, у наш час замежная выведка камітэту «паспяхова адсочвае пагрозы бяспецы краіны з боку замежных краін і блокаў, забяспечвае інфармацыяй замежнапалітычны курс кіраўніцтва краіны».

**Агенцтва «Ю.С.Ньюс» (yusnews.info)**

# Ізраіль адбярэ ў Палестыны ваду

Як мяркуюць многія ізраільскія аналітыкі, прэм'ер-міністр Ізраілю Шарон мае свой уласны план вырашэння канфлікту з Палестынскай Аўтаноміяй (ПА). Ён не лічыць, што тэрор, развязаны палестынскімі тэрарыстычнымі арганізацыямі супраць габрэйскае дзяржавы, — гэта праява экстраардынарная.

Галава ўраду, які ваяваў ува ўсіх араба-ізраільскіх войнах, сёння спрабуе пераканаць сябе і іншых у тым, што *гэтым разам Ізраіль можа перамагчы тэрор, не пачынаючы буйнамаштабнае вайны.* **З усіх магчымых метадаў змагання з тэрорам ён абраў той, які яму знаёмы найлепш, — паслядоўнае вынішчэнне паасобных тэрарыстаў.**



Паводле звестак ізраільскіх СМІ, сёння прэм'ер-міністр вядзе выключна складаную гульню. Ён знаходзіцца пасярэдзіне палітычнага спектру дзяржавы і выказвае думку сярэдняга ізраільцяніна. На стратэгію Шарона, несумненна, уплывае ягоны падыход да ўзаемаадносінаў з арабамі, якія жывуць у Эрэц-Ісраэль. Ізраільскі прэм'ер заўсёды трымаўся тае думкі, што палестынскія арабы, якія жывуць у Ізраілі, маюць жыць там і надалей. Гэты Шаронаў падыход ляжыць у аснове ягонага стасунку і да габрэйскіх паселішчаў. Ён лічыць, што раз арабы могуць жыць у любым пункце Ізраілю, то габрэі пагатоў маюць права жыць у любым кутку краіны.

Што да тэрытарыяльнага пытання, Шарон лічыць, што арабы могуць разлічваць максімум на 42% земляў Іудэі, Самарыі і Газы. Ён перакананы, што больш як 50% гэтых тэрыторыяў павінны адысці да Ізраілю паводле стратэгічных меркаванняў. Перадусім – з-за неабходнасці кантролю над ваданоснымі раёнамі. Але нават калі тэрор будзе ўціхамірany, усе астатнія праблемы арабаізраільскага канфлікту застануцца нявырашанымі. Сам Шарон лічыць, што канец канфлікту надыдзе толькі тады, калі «арабскі свет прызнае не ад'емнае права габрэйскага народу стварыць незалежную габрэйскую дзяржаву на Блізкім Усходзе».

Ізраільскія палітолагі перакананыя, што як бы ні склалася сітуацыя, Арафат ні пры якіх умовах не падпіша пагаднення, якое не гарантавала б палестынскага суверэнітэту на Храмавай гары і права палестынскіх бежанцаў на вяртанне. Зыходзячы з імпульсіўнага характару Арафата, яны сыходзяцца на думцы, што ў выпадку, калі Ізраіль выведзе войскі з тэрыторыі ПА, лідэр палестынцаў гэтым разам, хутчэй за ўсё, адразу ў аднабаковым парадку абвесціць утварэнне палестынскае дзяржавы.

Сёння, як лічаць псіхолагі, Арафат зусім не пярэчыў бы, каб як мага больш палестынцаў загінула ў тых ці іншых сітуацыях ад куляў ізраільскіх салдат. Больш таго, ён на гэта вельмі разлічвае, бо ў яго зноўку з'явіўся б шанец заклікаць да міжнародныя спагады. Па сутнасці ж для Арафата невыносная сама думка, што ў выпадку нейкага кампрамісу з Ізраілем лідэры груповак, настроеныя больш па-экстрэмісцку, чым ён сам, змогуць абвінаваціць яго ў здрадніцтве. Якраз гэтыя абсурдныя (улічваючы мора крыві, якая працягвае ліцца) амбіцыі стаяць на дарозе чыннае барацьбы Арафата з тэрарызмам.

**Utro.ru**

## Кожнаму жыхару планеты – нумар

У кожнага чалавека, які жыве на Зямлі, будуць знятыя адбіткі пальцаў, і кожнаму прысвоены ўласны ідэнтыфікацыйны нумар – так выглядае новая схема татальнае рэгістрацыі, пакліканая, на думку яе творцаў, прадухіляць нелегальную іміграцыю і гандаль людзьмі, паведамляе The Sydney Morning Herald.

Гэты план быў распрацаваны галавой бельгійскай незалежнай камісіі па справах бежанцаў Паскалем Смэтам *(Pascal Smet)*. Спадар Смэт сцвярджае, што Еўрапейскі Саюз ужо выпрабаваў падобную схему ідэнтыфікацыі грамадзян па адбітках пальцаў або сканаванні радужнай абалонкі вока.

Аднак, на яго думку, такая сістэма павінна стаць агульнасусветнай. «Усе тэхнічныя праблемы ўжо вырашаныя, – сказаў Смэт. – Гэта толькі пытанне палітычнае волі і інвестыцыяў».

«Дастаткова проста зірнуць на наша грамадства, і вы зразумееце, што ўсе мы ўжо зарэгістраваныя ад нараджэння да смерці, — працягвае Смэт. – Нашыя ўрады ведаюць, хто мы і што мы такое».

«Гэта асноўнае правіла эфектыўнага кіравання. Калі вы нечым кіруеце, вы дакладна ведаеце яго колькасць. Тое самае з людзьмі і міграцыяй».

На думку Смэта, такі спосаб рэгістрацыі дазволіць краінам адкрыць свае межы, бо ўсе законапаслухмяныя грамадзяне змогуць з лёгкасцю ідэнтыфікаваць сваю асобу, а іншых будзе лёгка выяўляць і дэпартаваць.

Смэтава прапанова будзе вынесена на абмеркаванне спецыяльнай сесіі ААН.

**КАНФЕСІІ**

## Еўрапейскі суд супраць РПЦ

Еўрапейскі суд па правах чалавека вынес 13 снежня рашэнне па справе Бесарабскай мітраполіі супраць ураду Малдовы. Іск быў накіраваны прадстаўнікамі мітраполіі ў Еўрапейскі суд па правах чалавека ў 1998 г. Ён быў прыняты да разгляду 7 чэрвеня 2001 г., а слуханні справы адбыліся 2 кастрычніка 2001 г.

Прадстаўнікі Бесарабскай мітраполіі абскардзілі дзеянні ўраду Малдовы, які цягам сямі гадоў адмаўляўся рэгістраваць гэтую Царкву. Урад Малдовы аргументаваў свае дзеянні тым, што Бесарабская мітраполія прытрымліваецца таго самага праваслаўнага веравызнання, што і Праваслаўная Царква Малдовы. Адзіная розніца ў тым, што Бесарабская мітраполія ўваходзіць у склад Румынскай Праваслаўнай Царквы, а Праваслаўная Царква Малдовы – у складзе Рускай Праваслаўнай Царквы.

На думку ўраду, рэгістрацыя Бесарабскай мітраполіі прывяла б да расколу Праваслаўнай Царквы ў Малдове. Сваім рашэннем Еўрапейскі суд па правах чалавека прызнаў, што ўрад Малдовы парушыў 9 артыкул Еўрапейскай канвенцыі правоў чалавека (аб свабодзе веравызнання) і 13 артыкул (аб эфектыўных сродках прававой абароны перад дзяржаўнымі органамі). Суд адзначыў, што Бесарабская мітраполія не магла функцыянаваць, былі парушаныя правы вернікаў, а святары не мелі магчымасці выконваць свае абавязкі.

Суд пастанавіў, што ўрад Малдовы павінен выплаціць істцам 27,02 тыс. еўра ў якасці кампенсацыі за грашовую і іншыя шкоды пры судовых выдатках. Згодна з артыкулам 43 Еўрапейскай канвенцыі правоў чалавека, цягам трох месяцаў кожны бок можа запатрабаваць разгляду справы ў Вялікай палаце суду, якая альбо прыме канчатковае рашэнне, альбо адхіліць просьбу аб разглядзе.

Лідэр парламенцкай фракцыі партыі камуністаў, якая кіруе ў Малдове, Віктар Сцепанюк заявіў, што «ўрад скарыстаецца сваім правам абскардзіць рашэнне Еўрапейскага суду па правах чалавека». Прадстаўнік ураду Малдовы ў Еўрапейскім судзе Віталь Пырлаг заявіў, што «яшчэ рана казаць пра якія-колькек абавязанні Малдовы перад Бесарабскай мітраполіяй, паколькі рашэнне суду не канчатковае і ўвойдзе ў сілу толькі пасля таго, як вычарпаюцца ўсе магчымасці яго абскарджання».

**Ntv.ru**

# Зімовыя мроі Таджыкістану

## *Дзеці там марыць пра падручнікі для школы, напаленыя дамы і пра яду*

Няма сумневаў, Алімаў усведамляе важнасць сваёй пасады. Нарэшце ён не проста адзін са шматлікіх, ён – галава вобласці Пяндж, паўднёвага рэгіёну Таджыкістану на мяжы з Афганістанам.

Як жывуць людзі ў Пянджы? «Раней усё было лепей», – пачынае Алімаў з важнасцю і распавядае пра час, калі гэтыя мясціны ўганараваў сваёй прысутнасцю Аляксандр, Аляксандр Вялікі!

Гэты чалавек знаецца на гісторыі. Сядзіш з ім не зусім без ахвоты, нягледзячы на ягоную безупынную і незразумелую гаворку, бо ў ягоным кабінеце ёсць прынамсі радыятар.

Менш пашчасціла пянджскай школы № 9, гліністаму рэлікту 30-х з праваленай падлогай. Пра печы школяры ды настаўнікі могуць толькі марыць. Яны былі б рады ўжо, калі б па іхніх класах не свісцеў вецер. У вокнах няма шкла, ад ветру засланяе ў найлепшым выпадку поліэтыленавая плёнка. Калі робіцца зусім холадна, дзеці сыходзяць на канікулы. Самы хадавы метад навучання ў Пянджы – вусны пераказ матэрыялу. Два засаленыя падручнікі на клас – гэта ўжо раскоша, школьных сшыткаў увогуле нідзе няма.

На гразкіх вясковых вуліцах без занятку стаяць мужчыны ў сваіх кідкіх шматколерных апранахах, што выглядаюць, як хатнія халаты. Няма працы. Збор бавоўны завершаны, абяцаных заробкаў пакуль яшчэ не выплацілі.

«Змена дэкарацыяў»: клініка для хворых на рак у сталіцы – Душанбе. Ізмат – худнелы, астрыжаны нагола хлопец – ляжыць на старым жалезным ложку, у безгустоўным памяшканні са сценамі, выкладзенымі белай кафляй, якая ўжо абсыпаецца. Пасцельная бялізна лядашчая, бацькі Ізмата вымушаны прыносіць сваю з дому. У клініцы няма працін, матрацаў, коўдраў, толькі ў некаторых палатах нармальная тэмпература.



Ізмату 14 гадоў, жыць яму засталося няшмат, у яго – рак. Магчыма, ён меў бы больш шанцаў выжыць, калі б бацькі маглі выправіць яго на лячэнне ў Маскву. Аднак, абышоўшы колькі разоў усіх сваякоў і сяброў, яны сабралі толькі на аплату трэцяразрадных медыкаментаў для лячэння ў Душанбе. Адзін сеанс самай таннай хіміятэрапіі каштуе ў Таджыкістане 35 даляраў ЗША, што ўтры разы болей за сярэдні месячны заробак. Лячэнне апраменьваннем каштуе ажно 200 даляраў ЗША. А таджыкская дзяржава не дае ні граша.

### Пакінутыя без дапамогі

Пасля доўгіх гадоў засухі Таджыкістану з яго разваленай гаспадаркай аднаму без дапамогі не ўправіцца. Краіна, у якой жыве 6,5 мільёна чалавек, – самая адсталая з усіх пяці рэспублік Сярэдняй Азіі, якія ў 1991 годзе вызваліліся з-пад улады Масквы. Амаль няма запасаў нафты, няма радовішчаў прыроднага газу. Толькі бавоўна ды алюміній. Але пасля распаду СССР нават на іх не знайшлося інвестараў.

Грамадзянская вайна, якая цягнулася з 1992 па 1997 гг. і забрала 50 000 жыццяў, скінула краіну на самае дно. Гэта была барацьба паміж ранейшымі элітамі і рэфарматарамі, паміж камуністамі і яшчэ кволым саюзам дэмакратаў, нацыяналістамі і ісламістамі, якая абвастралася стогадовымі канфліктамі паміж кланамі Поўначы і Поўдня. Неспасцігальны, хаатычны лабірынт.

Для Расіі адкрываецца жаданая магчымасць замацаваць свае неаспрэчныя, на яе думку, прэтэнзіі на ўплыў у Сярэдняй Азіі. Хутка загучалі заклінанні пра «зялёную небяспеку», і гэта пры тым, што апазіцыя – прыхільнік памяркоўнай формы ісламу і ніколі не імкнулася да стварэння рэлігійнай дзяржавы. У Таджыкістане і сёння дыслакуюцца расійскія войскі, прыблізна 20 000 чалавек. Іх бальшыня, перакінутая сюды нядаўна, ахоўвае мяжу з Афганістанам.

Масква задае тон у Афганістане. Чалавек, якому ў Маскве даваряюць, – Эмамалі Рахмонаў, ён трымае скіпетр у Душанбе ўжо дзевяць гадоў. Былы дырэктар саўгаса «Ленін» з прыемнасцю падае сябе як міратворцу, бо, урэшце, даў жа ён ісламістам пасады ва ўрадзе паводле дамовы 1997 году. Аднак перад тым ён некалькі гадоў жорстка пераследаваў апазіцыю, выкарыстоўваючы ўсе сродкі, якія толькі могуць быць у распараджэнні дэспата. Яшчэ і сёння наўрад ці знойдзеш таджыка, які б не пабойваўся адкрыта выступаць з крытыкай у адрас прэзідэнта.

У шэрагах ісламістаў таксама відаць хваляванне. Рахмонаў, паабяцаўшы аддаць ім 30% пасадаў ва ўрадзе, ніколі не трымаўся сваіх абяцанняў да канца. А частка ісламістаў і без таго ніколі не прымала ўсур'ёз мірнага пагаднення. Яны па-ранейшаму кантралююць вялікія раёны на паўночным усходзе краіны. Рэгулярна адбываюцца сутычкі.

Галеча, непераадольныя канфлікты і крымінальныя структуры жывяць гвалт. Толькі за апошні час забілі траіх уплывовых прадстаўнікоў ураду. Прычыны застаюцца нявысветленымі. Вялікую ўвагу прыцягнуў замах на жыццё намесніка міністра ўнутраных справаў Хабіба Зангінава. Ён зрабіў памылку, звязаўшыся з наркамафіяй.

Гандаль наркотыкамі ў Таджыкістане – самы прыбытковы занятак. У краіну з суседняга Афганістану трапляюць тоны опіуму. Паводле ацэнак, трэцяя частка ўсёй эканомікі Таджыкістану завязаная на здзелкі з наркотыкамі. Ходзяць чуткі, што ў наркабізнесе актыўна ўдзельнічаюць палітыкі, вайскоўцы, памежнікі, нават пасля таго, як па патрабаванні ААН на мяжы з Афганістанам узмацнілі кантроль.

Таджыкістан – гэта амаль безнадзейны выпадак, бедны на рэсурсы апендыкс былой імперыі, у якім, акрамя гандлю наркотыкамі, ёсць толькі адна перспектыва: укладаць сродкі ў адукацыю сваёй моладзі. Але ў вучняў Пянджу няма падручнікаў.

**Die Presse, *Аўстрыя***

# Лідэры талібаў уцяклі з ведама апазіцыі

Лідэры талібаў маглі ўцячы з дазволу кіраўніцтва антыталібскае апазіцыі. Паводле версіі міністэрства абароны ЗША, талібы прапанавалі апазіцыі здаць абложаныя ёю тэрыторыі (у прыватнасці, у раёне Кандагару) у абмен на сваю свабоду і магчымасць уцёкаў.

Як паведамляе CNN, той факт, што ў здадзеным войскам альянсу Кандагары аказалася неспадзявана мала талібаў, амерыканскія вайскоўцы лічаць адным з доказаў такой версіі.

Нагадаем: пасля здачы Кандагару ў горадзе не знайшлі духоўнага лідэра руху «Талібан» мулы Амара. Раней паведамлялася, што якраз мула Амар кіраваў абаронай гораду. Аднак пасля заключэння пагаднення з апазіцыяй пра здачу гораду мула Амар знік.



**МАС-МЕДЫЯ**

## У 2001 годзе ў свеце загінулі 100 журналістаў

У выніку ваенных дзеянняў, нападаў бандытаў або няшчасных выпадкаў у 2001 годзе ў 38 краінах свету загінулі 100 супрацоўнікаў СМІ – журналістаў і тэхнічных работнікаў. Такія звесткі падаюцца ў справаздачы Міжнароднай федэрацыі журналістаў *(The International Federation of Journalists)*, абнародаванай у панядзелак, 17 снежня.

Колькасць ахвяр тэрарыстаў сёлета аказалася досыць вялікаю – васьмёх супрацоўнікаў СМІ забілі ў Афганістане, яшчэ 12 загінулі ў тэрактах 11 верасня ў ЗША.

77 супрацоўнікаў сродкаў масавай інфармацыі загінулі, выконваючы свае службовыя абавязкі, а абставіны смерці яшчэ 23-х дагэтуль расследуюцца.

«Гэта трагічны напамін пра тое, якою цаною мы плоцім за свабоду слова і дэмакратыю», – пракаментаваў даклад журналістам *Associated Press* генеральны сакратар федэрацыі Эйдэн Уайт *(Aidan White)*. Уайт заклікаў урады ўсіх краін пастарацца забяспечыць бяспеку журналістаў.

# Рука беларускага рэжыму дастае і да Уроцлава...

## *Пераслед кіраўнікоў найбуйнейшых беларускіх дзяржаўных прадпрыемстваў не страчвае напалу*

*Працяг. Пачатак на 1 стар.*

Польская грамадскасць была абурана тым, што беларускі аўтарытарны рэжым, пераследуючы сваіх апанентаў, выкарыстоўвае з гэтаю мэтай – пры дапамозе двухбаковае дамовы – і Польшчу.

Справа, узбуджаная беларускай пракуратурай супраць Аляксандра Якаўлева, носіць, як гэта і прынята ў нашай краіне, чыста крымінальны характар – яго абвінавачваюць у кантрабандзе і адмыванні брудных грошай. Але ўва ўсім гэтым ёсць адзін невялікі нюанс, які прымушае, прынамсі, задумацца: да нядаўняга часу Якаўлеў займаў пасаду намесніка генеральнага дырэктара МАЗа па знешнеэканамічнай дзейнасці. А ягонае затрыманне прыпала якраз на перыяд масавых арыштаў кіраўнікоў найбуйнейшых беларускіх дзяржаўных прадпрыемстваў, што так нагадвае памятныя «чысткі» сталінскіх часоў. Нават калі справа і не носіць характару палітычнага пераследу, дык яго такім робяць самі ж беларускія органы, выкарыстоўваючы падобныя акцыі, каб стварыць у краіне атмасферу масавага тэрору, паўсюднага страху і ўціску ўсялякага іншадумства. Не кажучы ўжо пра тое, што беларускае правасуддзе (гэтая назва тут гучыць так па-оруэлаўску) ужо даўно не можа пахваліцца нават ценем незалежнасці.

Карэспандэнту НАШАЙ СВАБОДЫ ўдалося пагутарыць з Наталляй Якаўлевай, жонкай былога намесніка гендырэктара МАЗа.

- Як доўга Ваш муж рабіў на МАЗе?

- Муж прыйшоў працаваць на МАЗ з будаўнічага трэста № 15 пры аўтазаводзе, дзе ён быў галоўным інжынерам. На працягу 6 гадоў, калі ён рабіў на Мінскім аўтамабільным заводзе – да ад'езду ў Польшчу ў лістападзе 2000 г. – ён займаў пасаду намесніка генеральнага дырэктара па знешнеэканамічнай дзейнасці і дырэктара па знешнеэканамічных сувязях. Пад кіраўніцтвам мужа праводзілася ўся праца па заключэнні і рэалізацыі кантрактаў з партнёрамі з так званага далёкага замежжа. У лік найбуйнейшых пакупнікоў прадукцыі МАЗа ўваходзілі краіны Блізкага Усходу, Афрыкі, Паўднёва-Усходняй Азіі. А ўсяго экспартныя пастаўкі аўтамабільнай тэхнікі з эмблемай МАЗа ідуць у 23 краіны свету. Гэта я кажу таму, што МАЗ – адзін з найбуйнейшых беларускіх экспарцёраў. І, напрыклад, у 2000 годзе колькасць пастаўленай за мяжу прадукцыі МАЗа вырасла ў параўнанні з 1999 г. у 1,5 раза і адпаведна таму вырас паказчык экспарту гэтай тэхнікі ў грашовым вымярэнні – ён склаў, як казаў мне муж, больш за 15 млн. даляраў ЗША.



- Чым быў выкліканы ад'езд Вашай сям'і з Беларусі ў Польшчу?

- Спачатку з'ехаў муж, а потым мы. Можна сказаць, што такое рашэнне выспявала ў нас паступова. Я не раз казала мужу, што тое, што ён добра працуе – у гэтай краіне гэта не паказчык. Ён часта выязджаў за мяжу, і ўжо таму ягоную працу разглядалі пад павелічальным шклом. Органы КДБ увесь час адсочвалі працу майго мужа. У яго кабінеце, вядома, было праслухоўванне. Нельга было, напрыклад, падчас перамоваў з партнёрамі размаўляць на англійскай мове – толькі праз перакладчыка. Ад яговых супрацоўнікаў КДБ патрабаваў справаздач пра ўсе замежныя камандзіроўкі і да т.п.

Я нейкім унутраным чуццём адчувала, што ўдзячнасці за працу па 12 гадзін у суткі, пасля якой муж прыходзіў дадому выціснуты, як лімон, не будзе. Тым больш, што гэта была праца ў вельмі няпростых умовах – на прадпрыемства ціснулі высокія падаткі, няспынна зніжаўся ўзровень зарплаты. А перад выбарамі ў Вярхоўны Савет муж дэманстратыўна адмовіўся браць удзел у сходах, дзе ён быў павінен пераконваць рабочых у правільнасці палітыкі дзяржавы і ў тым, што іх становішча робіцца лепшым. Ён адмаўляўся хлусіць рабочым, публічна выказваў падтрымку свабодным прафсаюзам, дапамагаў, чым мог, іхнім лідэрам.

Непасрэдным штуршком да ад'езду паслужыў наступны інцыдэнт: неяк у лістападзе 2000 г. вечарам у пятніцу да яго ў кабінет зазірнулі супрацоўнікі КДБ (аднаго з іх прозвішча, памойму, Шурэвіч), якія рэгулярна адсочвалі яго, і «пажартавалі»: чаму, маўляў, ён так спакойна сядзіць і працуе; вось калі ў мінулую пятніцу яны зайшлі да некага ў кабінет, у таго ўжо пры сабе рэчы былі сабраныя... А ўжо ўсе заўважылі, што арышты звычайна праходзяць вечарам у пятніцу – каб у арыштаванага і зняволенага ў следчым ізалятары да панядзелка не было магчымасці ўбачыцца з адвакатам.

Праз два тыдні пасля гэтай падзеі муж выехаў. Ён не адчуваў за сабою ніякае віны, але цвяроза ўсведамляў палітыку гэтае дзяржавы і разумеў, што – незалежна ад яго вінаватасці або невінаватасці – яго могуць у кожны момант арыштаваць і абвінаваціць у чым заўгодна, гэтаксама як Старавойтава, Лявонава і іншых. Або КДБ будзе патрабаваць, каб ён з імі супрацоўнічаў.

- Чаму менавіта ў Польшчу?

- Бацька майго мужа ў вайну біўся разам з палякамі, пазней быў ушанаваны вышэйшымі ўзнагародамі Польшчы, стаў ганаровым грамадзянінам двух польскіх гарадоў. Пра яго ёсць згадкі ў гістарычнай ваеннай літаратуры Польшчы. Так што наша сям'я здаўна мела вельмі добрыя сувязі з гэтай краінай.

- Як развіваліся падзеі пасля ад'езду Вашага мужа? Ці гэтым хто-небудзь цікавіўся?

- Так, вядома, да нас прыходзілі дадому, наш тэлефон праслухоўваўся – былі чуваць спецыфічныя пстрычкі ў тэлефоннай трубцы, раздаваліся званкі: дзе, што. А потым мяне выклікалі на допыт, дзе мне паказалі пастанову пра вобшук кватэры. Падчас вобшуку, натуральна, нічога яны не знайшлі... Калі я заявіла, што ведаю свае правы і не буду адказваць на іх пытанні, то спачатку са мною вялі своеасаблівую гульню: «Ну добра, Вы можаце не адказваць на пытанні, якія здадуцца Вам некарэктнымі...» Калі ж я працягвала настойваць на сваіх правах, напісала заяву, што паколькі я адмаўляюся даваць паказанні, хай мяне перастануць выклікаць на допыты, то пачаўся непрыхаваны ціск.

- То бок ужо тады выстаўляліся нейкія абвінавачанні на адрас Вашага мужа?

- Так, яны абвінавачвалі яго ў кантрабандзе і адмыванні брудных грошай. А палягала «кантрабанда» ў наступным: муж вывез на тэрыторыю Польшчы менш, чым увёз на тэрыторыю Беларусі. А атрымалася так таму, што падчас аднае паездкі ў Польшчу, калі мы ўсёй сям'ёй паехалі на машыне да нашых сяброў, дык калі выязджалі з краіны, кожны з нас задэклараваў суму грошай, дазволеную да вывазу на 1 чалавека; а калі вярталіся – то ўся сума, амаль не выдаткаваная, была ўпісана ў дэкларацыю мужа. І ў гэтым нашы органы ўбачылі кантрабанду!

Я нават не хачу заглыбляцца ў падрабязнасці, бо ўсё гэта брудная фальсіфікацыя. Якое можа быць адмыванне грошай, калі, працуючы на МАЗе, муж не меў непасрэднага дачынення да грошай! Я лічу, што гэта палітычная справа, бо муж адкрыта крытыкаваў на заводзе эканамічную палітыку беларускіх уладаў, падтрымліваў свабодныя прафсаюзы. Акрамя таго, наколькі мне вядома, калі на адным са сходаў працоўнага калектыву нехта задаў пытанне: а што з тымі грашыма, якія скраў Якаўлеў, - то быў адказ, што праверкі, якія працягваліся паўгода на заводзе, паказалі: ніякіх грошай Якаўлеў не ўкраў. У мужа да апошняга моманту перад прэзідэнцкімі выбарамі цеплілася надзея, што сітуацыя ў краіне зменіцца, што ўва ўсім разбяруцца і што абвінавачванні на яго адрас прызнаюць недарэчнымі...

- Ці легальна Ваша сям'я знаходзіцца ў Польшчы?

- Так, цалкам легальна. Муж яшчэ ў лютым гэтага году атрымаў права на часовае пражыванне ў Польшчы. Для гэтага, як вядома, неабходная прапіска. Дзіця ходзіць тут у школу. Адразу ж, як муж прыехаў у Польшчу, ён пайшоў у польскую паліцыю і сказаў, што яго могуць вышукваць беларускія органы, а ён не збіраецца хавацца і яго могуць знайсці па такім і такім адрасе...

- То бок для польскіх уладаў не склала цяжкасці знайсці Вашага мужа... Тым не менш, ад даты, калі быў выпісаны ордэр на арышт, прайшло больш як паўгода...

- Так, ордэр на арышт датаваны красавіком, а мужа арыштавалі толькі 27 лістапада.

- У якіх умовах яго трымаюць у польскай турме? Ці ёсць у Вас магчымасць кантактаў з ім?

- Мужа арыштавалі ў сераду, а ў пятніцу на падставе польска-беларускай дамовы суд прыняў рашэнне аб затрыманні яго на 30 сутак у турме. Ён утрымліваецца на агульных умовах. Мне даюць спатканні з мужам – я магу бачыцца з ім праз дзень. Не магу перадаваць яму кніг, газет, тэлефона. Я звярнулася прыватным чынам да адваката, які абараняе майго мужа. А ў бліжэйшую пятніцу павінен адбыцца суд...

**Людміла ГУЛЯКЕВІЧ**



# «ФПБ хочуць паставіць на калені»

14 снежня Савет міністраў Беларусі прыняў пастанову «Аб мерах па абароне правоў членаў прафесійных саюзаў», якая прадпісвае наймальнікам да 1 лютага 2002 году вярнуць работнікам утрыманыя з іхняй зарплаты сродкі, вылічаныя з заробкаў у лік прафсаюзных узносаў, але не пераплочаныя па стане на 1 снежня на разліковыя рахункі адпаведных прафсаюзаў. Другі пункт пастановы вызначае, што выплочваць членскія ўзносы мусіць асабіста работнікі без утрымання ўзносаў з іх зарплаты. Трэці пункт пастановы кажа, што наймальнікі, індывідуальныя прадпрымальнікі пры парушэнні гэтай пастановы нясуць дысцыплінарную, адміністрацыйную і крымінальную адказнасць за парушэнне заканадаўства аб працы. Міністр юстыцыі бадзёра адрапартаваў, што «пастанова прынятая ў адпаведнасці з Канстытуцыяй РБ, яна не парушае Канвенцыі МАП». Нягледзячы на такую аптымістычную назву пастановы, у Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі надзвычай рэзка ацэньваюць названы дакумент. Пастанова Саўміна і сталася фармальнай падставай для сустрэчы з намеснікам старшыні ФПБ па эканамічных пытаннях Францам Вітко.

*— Франц Пятровіч, міністр юстыцыі Віктар Галаванаў, каментуючы праграме «Панарама» гэтую пастанову, заявіў даслоўна наступнае: «Гэтая пастанова накіраваная на далейшую абарону правоў працоўных, і перш за ўсё сябраў прафсаюза». Як Вы ацэньваеце згаданы дакумент Саўміна, і якія мэты пастанова пераследуе насамрэч?*

— Вельмі трывожыць, што Савет міністраў як суб'ект сацыяльнага партнёрства ўвогуле ігнаруе ўсе прынцыпы сацыяльнага партнёрства. Гэтая пастанова, згодна за артыкулам 6 закона аб прафсаюзах, павінна была папярэдне абмяркоўвацца ці накіроўвацца для абмеркавання на адрас прафесійных саюзаў. Парушаны канстытуцыйны прынцып сацыяльнага партнёрства – гэта першае.

Па-другое, пастанова ігнаруе 117 артыкул Грамадзянскага кодэкса, паводле якога членскія ўзносы грамадскай арганізацыі з'яўляюцца маёмасцю гэтай арганізацыі і перастаюць быць маёмасцю члена гэтай арганізацыі. Да таго моманту, пакуль з работніка не ўтрымалі ўзносы – гэта яго заробак, а калі яны ўтрыманыя наймальнікам па асабістай заяве канкрэтнага работніка – гэтыя ўзносы становяцца ўжо маёмасцю арганізацыі.

Трэцяя асаблівасць: ігнаруецца артыкул 107 Кодэкса законаў аб працы, якая дазваляе работніку па пісьмовай заяве даручыць наймальніку пералічваць сваю зарплату ці яе частку туды, куды ўкажа член прафсаюза. І наймальнік мусіць бесперашкодна пералічыць на ўказаны рахунак грошы.

Сістэма безнаяўнага пералічэння прафсаюзных узносаў – гэта не вынаходка Беларусі. Безнаяўнае пералічэнне прафсаюзных узносаў прымяняецца ва ўсім свеце. Больш за тое, у многіх дзяржавах членства ў прафсаюзе з'яўляецца тайнай для наймальніка. Вы памятаеце выпадак, калі ўрач адной з бальніц Мінска звярнуўся ў Канстытуцыйны суд, які прызнаў цалкам адпаведным дзеючаму заканадаўству безнаяўны пералік членскіх узносаў члена прафсаюза, калі ён звярнуўся з індывідуальнай заявай да наймальніка. Такім чынам, мы маем факт абсалютнага ігнаравання прынцыпаў раўнапраўнага і добрасумленнага выканання прававых актаў. Нават сама назва падкрэслівае ўсю анамальнасць гэтага факта. Па сутнасці, у прафсаюзаў узнікаюць вельмі цяжкія наступствы, бо пры такіх заробках чалавек лічыць кожную капейку. Мне здаецца, мэта гэтай пастановы – як хутчэй ліквідаваць, калі не паставіць на калені, арганізацыі працоўных. Уладу ў пэўным сэнсе можна зразумець: стан справаў у эканоміцы вельмі цяжкі. Мы бачым такую павальную неплатаздольнасць, што рэнтабельнасць і прыбытковасць прадпрыемстваў нават не забяспечвае простага ўзнаўлення вытворчасці прадукцыі... І каб не было прафсаюзаў, якія маглі б зрабіць адпаведныя захады па абароне правоў рабочых, улада ідзе на тое, каб задушыць прафсаюзы, ліквідаваць іх матэрыяльныя асновы і пакінуць рабочых сам-насам з крызіснай сітуацыяй.

*— Якая запазычанасць па прафсаюзных складках існуе сёння, і як названая пастанова адаб'ецца на фінансавым становішчы Федэрацыі?*

— Дакладную лічбу запазычанасці вам ніхто не назаве, але гэтая сума набліжаецца да трох з паловай мільёнаў рублёў. Што да ўплыву на фінансавае становішча Федэрацыі, то ФПБ атрымлівае ўсяго 2,4% ад сумы, якую наймальнікі мусяць пералічыць. З агульнай сумы 3,5 мільярда рублёў каля 70 мільёнаў рублёў павінны быць пералічаныя непасрэдна на рахунак ФПБ. Гэта многа. Безумоўна, мы будзем аспрэчваць гэтую пастанову ў Канстытуцыйны суд, мы таксама звернемся да міжнародных аб'яднанняў, бо ўрад увогуле не мае права ўмешвацца ў адносіны наймальнікаў і прафсаюзаў. Звернемся і да членаў прафсаюза. Нават на пабытавым узроўні, нягледзячы на ўсе хібы ў працы ФПБ, людзі бачаць у Федэрацыі апошнюю арганізацыю, якая іх згуртоўвае.

**Рыгор БУЯН**

**КРЫМІНАЛ**

## На «Варшаўскім мосце» затрыманы кантрабандыст

Супрацоўнікі ўпраўлення па Брэсцкай вобласці Камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй і работнікі мытні «Заходні Буг» затрымалі грамадзяніна Расіі, у якога канфіскавалі 51 400 нямецкіх марак, 1 200 амерыканскіх долараў і 4 500 расійскіх рублёў.

34-гадовы ўраджэнец Стаўрапольскага краю Юрый Д. накіроўваўся ў Германію праз мытны пераход «Варшаўскі мост». У дэкларацыі ён указаў суму, якую перавозіць — 16.400 нямецкіх марак, 4,5 тысячы расійскіх рублёў і 1.200 амерыканскіх долараў. Аднак пры асабістым нагледзе ў адзенні расіяніна было знойдзена яшчэ 35 тысяч нямецкіх марак, якія ён спрабаваў правезці нелегальна. Уся валюта, у тым ліку і задэклараваная, згодна з заканадаўствам, у Юрыя Д. канфіскавана. Сам ён затрыманы і знаходзіцца ў следчым ізалятары.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**



# Віцебскія цырульнікі не вераць у лібералізацыю

Творчасць майстроў, якія дапамагаюць жанчыне быць прыгожай, паказвалася на фестывалі новага стылю ў Віцебску ў нядзелю. Яго арганізатарамі сталі віцебскія гарадскія ўлады, прадпрыемствы бытавых паслугаў, цэнтр сучаснага мастацтва ды жаночыя грамадскія арганізацыі. Фестываль быў названы «Залатыя нажніцы» і меў у сваёй праграме традыцыйны конкурс цырульнікаў, які праходзіў сёлета ў чатырнаццаты раз. Таксама ў рамках фестывалю праходзілі мастацкая і фотавыстава, майстар-класы вядомых цырульнікаў ды прэзентацыі шэрагу фірмаў, у тым ліку «Беліта» і «Шварцкопф».

Фестываль стаў добрай нагодай для віцебскіх жанчын-прадпрымальніц, каб абмеркаваць у адмысловым бізнес-класе і за круглым сталом шляхі пашырэння ўплыву жанчын на становішча ў горадзе і краіне, а таксама ўмацавання іхняй эканамічнай самастойнасці праз развіццё жаночага прадпрымальніцтва. Падчас дыскусіі ўдзельніцы «круглага стала» ўзнялі дужа надзённае пытанне пра тое, што для цырульняў з новага году касуюцца льготы па аплаце за арэнду памяшкання. Пра гэта стала вядома з дакументу, які называецца «Пратакол № 9 ад 16 кастрычніка 2001 году», пункт 7 якога змяшчае дадаткі да рашэння «Рэспубліканскай камісіі па ўпарадкаванні выкарыстання адміністрацыйных будынкаў, збудаванняў, плошчаў і іншых аб'ектаў» і які набывае сілу з 1 студзеня 2002 году. З 1998 году ўсе прадпрыемствы, якія аказвалі бытавыя паслугі, мелі права на зніжэнне аплаты за арэнду памяшканняў згодна з каэфіцыентамі 0,4 і 0,2. Цяпер у пералік гэтых прадпрыемстваў не патрапілі цырульні, фотамайстэрні і прадпрыемствы па рамонце мэблі. Паводле звестак адказнага дырэктара Асацыяцыі наймальнікаў і прадпрымальнікаў Віцебскай вобласці Ніны Лук'янавай, мясцовыя ўлады рыхтуюцца вяртаць дзяржаўным прадпрыемствам бытавых паслугаў ільготы па арэндзе на сваім узроўні. Тым часам віцебскія прыватныя цырульнікі, якіх у горадзе ўжо 36, пакуль атрымалі толькі чарговае сведчанне сапраўднага зместу абвешчанай кіраўніком краіны лібералізацыі.



**Міхал ЧАРВІНСКІ**
**Віцебск**

ЭКСПРЭС

# Эканамічныя нататкі

## Брэнд году

Упершыню ў нас распачаўся конкурс «брэнд году». Яго вынікі падвядуць у студзені наступнага году на міжнароднай канферэнцыі «Развіццё маркетынгу: магчымасці інтэграцыі ў сусветную эканоміку».

Арганізатары гэтага нязвычнага конкурсу – Бізнес-школа прадпрымальніцтва і менеджменту, Клуб беларускіх брэндаў, сацыялагічная лабараторыя «Новак» і «Нацыянальная эканамічная газета». Удзел у конкурсе дае прадпрыемству дадатковую масіраваную рэкламу, а таксама магчымасць адзначэння экспертамі моцных і слабых бакоў брэнду, перспектываў развіцця.

Пераможцы атрымаюць эксклюзіўнае права на працягу году валодаць намінацыяй з магчымасцю нанясення яе лога на сваю прадукцыю. Будуць і яшчэ некаторыя льготы.

## Бюджэт адшукае даўжнікоў

Паводле звестак міністэрства фінансаў РБ, на пачатку папярэдняга месяца бюджэт атрымаў 4 трлн. 585,9 млрд. рублёў прыбытку.

З іх 54,3% складаюць падатак на дабаўлены кошт (25% ад усіх паступленняў), на прыбыткі, акцызы, а таксама падаходны падатак.

У гэты ж час міністэрства па падатках і зборах паведамляе, што запазычанасць па плацяжах у бюджэт за той самы перыяд склала 125,3 млрд. рублёў. У тым ліку па падатках на дабаўлены кошт – 38,6 млрд., па плацяжах з выручкі ад рэалізацыі – 33,1 млрд., адзіным падатку вытворцаў сельгаспрадукцыі 15,6 млрд., акцызах – 9 млрд., падатку на прыбытак – 7,3 млрд. рублёў.

Даўгі па плацяжах у бюджэт павялічыліся ў параўнанні з мінулым годам у 3 разы. Аб'ём адтэрмінаваных сумаў запазычанасцяў склаў за прааналізаваны перыяд болей за 34,7 млрд. рублёў.

## Камяні на шляху новай еўравалюты

Германскія эканамісты сцвярджаюць, што канчатковы пераход да еўра, які адбудзецца 1 студзеня 2002 году, будзе каштаваць прыватнаму бізнесу і казне ФРГ каля 40 млрд. нямецкіх марак.

Па папярэдніх падліках Федэральнага саюзу нямецкай эканомікі, толькі прамысловасць выдаткавала 12,5 млрд. марак на ўсталяванне новага праграмнага забеспячэння, якое павінна адаптаваць камп'ютэрныя сістэмы Германіі да еўра. Нямецкія гандлёвыя інстытуты падлічылі, што сам пераход 1 студзеня абыдзецца прыблізна ў 7 млрд. марак.

Незалежныя эксперты папярэджваюць, што ўсё гэта адмоўна адаб'ецца на простых спажыўцах – у выглядзе прыхаванага росту коштаў і некаторых падаткаў, якія ім прыйдзецца аплочваць.

Не ўсё добра будзе з увядзеннем еўра і ў нямецкіх суседзяў. Працаўнікі пяці найбуйнейшых банкаў Францыі маюць намер пачаць агульную забастоўку 2 студзеня 2002 году ў сувязі з тым, што новая валюта павялічвае іх працоўную нагрузку, а вось зарплата застаецца на ранейшым узроўні. Прафсаюз банкаўскіх працаўнікоў лічыць, што нармальную дзейнасць банкаў можна забяспечыць толькі шляхам прыёму на працу дадаткова не менш як 50 тысяч новых супрацоўнікаў.

**Андрэй КАРПОВІЧ**

# Апошнія дні для ўкладчыкаў «Белбалтыі»

З прыходам новага года для ўкладчыкаў ТАА «Банк «БелБалтыя» заканчваецца чарговы тэрмін прыёму заяў аб скасаванні дамоваў з гэтым банкам, які Гаспадарчы суд Мінска прызнаў банкрутам.

Апошні дзень прыёму такіх заяў, з улікам выхадных, — 29 снежня 2001 года. Пакуль гэтым правам скарысталіся каля 60 укладчыкаў са 190, якія яшчэ засталіся. Тэрмін заключэння дамоваў аб пагашэнні запазычанасці ў ААБ «Беларусбанк» застаўся ранейшым — да 1 ліпеня 2002 года.

Такая магчымасць укладчыкам і іх нашчадкам дадзена ў адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў і Нацыянальнага банка ад 19 лістапада 2001 года. Гэтым дакументам унесены адпаведныя змены ў сумесную пастанову Савета Міністраў і Нацыянальнага банка ад 1 сакавіка 2001 г. № 295/5 «Аб парадку вяртання фізічным асобам сродкаў у замежнай валюце, прыцягнутых ва ўклады таварыствам з абмежаванай адказнасцю «Сумесны беларуска-латвійскі банк «БелБалтыя».

Камісія Нацыянальнага банка па конкурсным кіраванні ТАА «Банк «БелБалтыя» цяперашнім часам размешчана па адрасе: г. Мінск, вул. Каліноўскага, 72А.

**Аляксей АРЭШКА**

# Інструкцыі Савета міністраў для дрывасекаў

Дзеля «больш эфектыўнага выкарыстання і аднаўлення лясных рэсурсаў» Савет міністраў прыняў пастанову аб узростах высечак лесу.

Іх будзе вызначаць камітэт лясной гаспадаркі супольна з міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя з улікам навуковых біялагічных даследаванняў тых ці іншых лясных пасадак і іхнага мэтавага прызначэння.

Узросты высечак усіх лясных парод падзяляюцца на дзве групы: да першай адносяцца звычайныя лясныя масівы, да другой – так званыя эксплуатацыйныя лясы. Для соснаў, ялінаў, піхтаў ды кедраў гэта адпаведна – 101 год і вышэй і 81 год і болей; для дуба, ясеня, клёна, вяза – 121 і 101 год, для ліпы, граба ды акацыі – 81 і 71, для бярозы – 71 і 61, для альхі, рабіны і каштана – 61 і 51, асіну, таполю ды вярбу ў абодвух выпадках можна высякаць, калі гэтыя дрэвы старэйшыя за 41 год.

У лясах, размешчаных на тэрыторыях запаведнікаў, нацыянальных паркаў, а таксама ў гарадскіх лясах, у лесапаркавых частках зялёных зонаў, у санітарнаахоўных лясах узросты высечак не вызначаюцца, бо тут могуць праводзіцца толькі адмысловыя аднаўленчыя высечкі.

**Кірэй МАНУЙЛА**

# Парк стойлавага перыяду

## *Адміністрацыйная беларуская сімфонія*

### Ouverture (уступ)

Ішоў раз у грыбы. Узяў сала кавалачак, цыбуліну, яйка зварыў, хлеба лусту адкроіў. Яшчэ ёсць у мяне пляшачка сталёвая на дзвесце грамаў. Паклаў і яе, покуль старая не агледзелася. Натуральна, не парожняю.

Дзень цёплы быў. Павуцінне ляцела. Поўны кошык набраў. Падсілкаваўся, пасцяліў куртку, задрамаў і, на табе, прымроілася аграрная рэформа. Мабыць, мурашка джгнула. Цяжка дасягнуць поўнага шчасьця.

А што прэм'ера нашага ўгрызла, не ведаю. Кажа: «Дзяржава стварыла ўмовы для рэфармавання сяла». Гэтаксама як і змагара за правы аграрыяў з нашага маўклівага парламэнту, паважанага сп. А.Азарчанкава. Гэны лямантуе: фінансы не паправім -- без хлеба застанемся!

### Adagio (павольна)

Атрымліваецца, як прэм'ера паслухаеш, усё, што рабілі з нашымі вёскамі і іхнімі насельнікамі апошнія дзесяць гадоў, было зусім не вынікам бездапаможнасці тутэйшых стратэгаў і тактыкаў, а падрыхтоўкай да мадэрнізацыі. Дык чаго той аграрый лямантуе, як апазіцыянер на мітынгу?

Бач, як цяжка простаму чалавеку ўцяміць, што маюць на мэце абраннікі лёсу і электарату. Але сёння, калі сакрэтную стратэгію абвясцілі, масы радуюцца, а ворагі народу ў разгубленасці, можна асмеліцца. Зробім жа і мы кароткі агляд гістарычных крокаў начальства ў бок росквіту нашай шэрай вёскі.

На малюнку відаць, што




графік змяненняў індэксу, які характарызуе фінансавы стан калгасаў, імкнецца ў дол. Не дзіва, бо ён абумоўлены аб'ектыўнымі паказчыкамі. Напрыклад, прыбытак сельскагаспадарчых прадпрыемстваў складаў у 1990 годзе чвэрць ад агульнага прыбытку па народнай гаспадарцы. У 1999 годзе ён быў ужо меншы за дзесятую частку. А сёлета, падобна, зрабіўся часткай дзяржаўных сакрэтаў і ў адкрытай статыстыцы не паведамляецца.

Доля стратных прадпрыемстваў была ў сельскай гаспадарцы дзесяць гадоў таму ў чатыры разы ніжэйшая, чым сярэдняя па краіне, а цяпер – удвая вышэйшая.

### Agitato (усхвалявана)

Чаму так зрабілася? Таму што скарацілася спажыванне асноўных прадуктаў. Хлеба сярэдні беларус з'ядае на 15 кг меней, мяса – на 14 кг, малака і малочных прадуктаў – на 95 кг меней, чым у 1990 годзе. Калі попыт скарачаецца, то на рынку застаюцца толькі лепшыя вытворцы.

А хто ў нас вытворцы? Нашыя начальнікі пра гэта нічога не ведаюць. Дакладней кажучы, жадаюць ведаць толькі палову праўды. Яны любяць калгасы. Гэтае няшчаснае аднабаковае каханне засціць ім вочы. Нідзе не чуваць пра абсалютна простую рэч: насельніцтва краіны пагалоўна спажывае сельскагаспадарчую прадукцыю, а вытворчасцю харчу занятая толькі пэўная частка людзей.

Гэтыя людзі зваліся спакон веку «сяляне», а зусім не «калгаснікі» альбо, яшчэ горай, «рабочыя саўгасаў». Яны і цяпер сяляне. Бедныя сяляне, якія праз сваё малазямелле і брак цяглавай сілы мусяць ісці са сваёй мізэрнай гаспадаркі батрачыць у ненавісны калгас альбо саўгас.

У іх няма эканамічнага стымулу батрачыць на гэтых дзяржаўных латыфундыях і фазендах, баяцца і слухацца «капітанаў вытворчасці». Сяляне не атрымліваюць грошай за сваю працу на дзяржаву. На 31.10.2001 запазычанасць па заработнай плаце склала 32,2 мільярда рублёў — гэта дзве траціны ***ад месячнага заробку 650 000 чалавек. У сярэднім па 30 даляраў на аднаго занятага.***

Што ж прымушае гэтых людзей жыць так? Страх, спрадвечны сялянскі страх перад неадольнай сілай дзяржавы. Селяніну няма дзе схавацца. Ён здабывае хлеб свой надзённы, бо мае двор і што ў двары. Гэта вельмі мала. Але нават тое, што ёсць, не кінеш і з сабой не возьмеш, каб ухіліцца ад прыгнёту і прымусу. А гэта ўсё, што ёсць.

Камуністы з камсамольцамі, што кіруюць цяпер намі, любяць калгасы. Гэтак любілі сваю галеру стымулятары -- рабы, якія выслужыліся, пазбыліся абрыдлага вясла і атрымалі ў рукі «стымул», завостраны кій, якім можна было шырацць грабцоў. Яны ведаюць, як гнаць наперад, як зрабіць балюча, як прымусіць, бо самі цярпелі гадамі.

Ды няма ўжо сіл у затурканых грабцоў. Працуюць калгаснікі і саўгаснікі на калгасна-саўгаснай зямлі як ваеннапалонныя, як прыгонныя, і па сутнасці яны такія і ёсць.

Хто мацнейшы душою, яшчэ спрабуе захаваць людскі лад жыцця на сваім двары, на сваёй маленькай зямлі. Ды іх усё меней.

Распанелыя стымулятары заварушыліся. Не сялян яны баяцца. Тыя нікуды не ходзяць і не пойдуць.

Палохае правадыроў насельніцтва малінавак ды серабранак, якое, без хлеба застаўшыся, павылазіць са сваіх блочных нораў і... ніякія амоны не дапамогуць.

### Doloroso (тужліва)

Толькі вось варушыцца ўнукі Леніна ўмеюць трыма камуняцкімі спосабамі: стварыць напружанне ў працоўных калектывах, адшукаць нутраныя рэзервы і адрапартаваць.

Паляцелі ў лепшы калектыў. Тамтэйшы стымулятар грошы просіць. Паўмільёна баксаў хоча і 600 мільёнаў беларускіх. Маладзец, ведае, у каго прасіць. А навошта яму двухузроўневая банкаўская сістэма, калі ёсць Адзіны Усімдавацель.

Памножце запрошаную суму на 2 000 і збольшага зразумееце, колькі трэба ўсім стымулятарам. Мільярд даляраў далярамі і яшчэ мільярд даляраў беларускімі рублямі.То, кажуць, тады будзем мець болей малака і мяса.

Фунт ялавічыны каштуе на сусветным рынку 70 цэнтаў. За два мільярды даляраў можна купіць па 114 кіло ялавічыны кожнаму грамадзяніну нашай краіны. Хопіць на два гады.

І мучыцца не трэба. І не трэба страчваць па 20 цэнтаў на кожным кіло мяса, як сёлета ў г.зв. дзяржаўным сектары.

Гэта жарт, разумееце, але жарт вельмі сумны. Той маладзец, што прасіў, ён разумны, грошай не змарнуе. Але чамусьці дзве тысячы такіх разумнікаў з 1917 году знайсці не выпадае.

Кажуць, трэба рэфармавацца. Кажуць, нават не «строем» і не ў адзін бок. Але без «калектыву» не атрымліваецца. Яшчэ не атрымліваецца без інвестара. І ніяк не ўцямяць стымулятары, нават найлепшыя, чаму той інвестар не хоча свае грошы аддаваць калектыву.

Вось паселі яны адзін пры адным у сваёй Палацы сваіх прадстаўнікоў і ўзяліся адно аднаго слухаць. Чуюць, што рэнтабельнасць вытворчасці за дзесяць гадоў скарацілася ў 15 разоў і стала летась 3 адсоткі, а сёлета і наогул мінус тры будзе. Што памеры запазычанасці калгасаў у 20 разоў большыя за тое, чым разлічыцца можна.

Што жывем мы някепска: і самім хапае і яшчэ на 240 мільёнаў даляраў харчу за мяжу прадалі. Праўда, купіць давялося на 242. А каб яшчэ далі нам 35 мільярдаў даляраў, то можна было б трактараў з камбайнамі накупіць...

Што вытворцу падтрымаць трэба. А вытворцы тым часам сядзелі па сваіх дварох і займаліся хто чым. Хто рабіў, хто гарэлку піў.

Іхныя дзяды гінулі за зямлю. Унукі Леніна вырашылі ператварыць 735 000 гектараў ворнай зямлі ў лясы і пусткі.

А як яны вішчэлі дзесяць гадоў таму, і год яшчэ таму, каб, барані Божа, не даць якому аднаасобніку альбо дачніку хоць сотку прыстойнага ворыва.

**Юзік ЛАБЭЦКІ**

# Багатым і чорт люльку калыша

*Мінскія ўлады растоптваюць міжнародныя Хартыі і рэспубліканскі Закон аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны*



14 снежня на нарадзе ў камітэце архітэктуры, горадабудаўніцтва і землеўпарадкавання Мінгарвыканкаму пасля чарговага абмеркавання прыняты план пабудовы шматузроўневай стаянкі з аб'ектамі грамадска-гандлёвага прызначэння па вуліцы Нямізе. Яго заказчыкам выступае таварыства з дадатковай адказнасцю «Паркінг», праект падрыхтаваны «Белпрампраектам».

Як паведаміў БелаПАНу галоўны архітэктар праекту Марат Гроднікаў, комплекс уваходзіць у план рэгенерацыі гістарычнага кварталу гораду. Паркінг агульнай плошчай 25 тысяч квадратных метраў разгігнецца ад будынку прадпрыемства «Белпраект» да вуліцы Камсамольскай. Згодна з праектам, з'явіцца новая вулачка, а існуючыя будынкі будуць аднаўлены. Паркінг будзе мець некалькі ўзроўняў. Два ніжнія паверхі зоймуць рэстараны, кавярні, гандлёвыя і дапаможныя плошчы. На верхніх паверхах размесціцца стаянка на 500 аўтамашын.

Паводле словаў Гроднікава, прынята рашэнне распачаць будаўніцтва ў красавіку-траўні 2002 году.

Як паведаміў пры абмеркаванні праекту старшыня камітэту архітэктуры, горадабудаўніцтва і землеўпарадкавання Аляксандр Чадовіч, адпаведны конкурс быў абвешчаны яшчэ ў 1997 годзе. За гэты час былі разгледжаны дзевяць варыянтаў праекту, змяніліся некалькі заказчыкаў. Чадовіч заявіў, што гістарычная спадчына на тэрыторыі рэалізацыі праекту закранацца не будзе. «Даследаванні па рэгенерацыі паказалі, што слой XIX стагоддзя не будзе закрануты. Ёсць таксама план правядзення археалагічных пошукаў, у выніку якіх, магчыма, будуць знойдзены рэшткі сярэднявечных будынкаў – яны таксама будуць захаваныя. Пабудова ж паркінгу вырашыць надзённую праблему гораду», – зазначыў Чадовіч.

**БелаПАН**

**Каментар НАШАЙ СВАБОДЫ**

НАША СВАБОДА неаднойчы публікавала матэрыялы адносна планаў апаганіць Нямігу пяціпавярховым паркінгам. Праект шматузроўневай аўтастаянкі ў самым цэнтры гістарычнага Мінску гарадскія ўлады прабівалі з такой упартасцю, што не заставалася ніякай надзеі на выкарыстанне абранага месца пад нешта культурнае, адпаведнае статусу тысячагадовага гарадскога ядра. Робіцца гэта са шчырым здзекам з глузду і міжнароднымі Хартыямі аб захаванні культурных каштоўнасцяў, цэнтраў гістарычных гарадоў, павагай да мінуўшчыны. Цынічна гучаць тэзісы пра станоўчую ролю паркінгу на Нямізе для вырашэння «надзённых праблемаў» гораду і яго аздараўлення. Ва ўсіх гарадах Еўропы гістарычныя цэнтры наадварот вызваляюць ад машын, аддаючы вуліцы пешаходам, адраджаючы старадаўнія пабудовы. Нават у Маскве Манежную плошчу ператварылі ў цудоўны культурны цэнтр, рэстараны і магазіны засунулі пад зямлю, а машыны не падыходзяць туды і блізка. У нас насупраць – самая старая вуліца гораду аддаецца нейкаму ТДА «Паркінг» для зараблення грошай. І міністэрства культуры, і Савет міністраў, ды і Адміністрацыя прэзідэнта – усе робяць выгляд, што нічога дзіўнага не адбываецца, а нібыта наадварот – «горад прыгажэе».

І праект, і яго ўхваленне немагчыма разумець інакш як наўмыснае руйнаванне гістарычнай памяці Мінску, як пахаванне яго выдатных мясцінаў пад калёсамі легкавікоў.

Цікава, што будзе адказваць Мінскі гарвыканкам на заявы аб пікетаванні, калі пры пачатку рэалізацыі гэтага дзікунскага праекту яго пачнуць пікетаваць культурніцкія арганізацыі? Зноў выстаўляць заслону з АМАПу як у Курапатах?

# У Віцебску ўшанавалі памяць Яна Баршчэўскага

Адмысловай выставай і памятнай вечарынай у Віцебскім літаратурным музеі ўшанавалі памяць класіка беларускай ды польскай літаратур, ураджэнца Віцебшчыны Яна Баршчэўскага. Ягонай творчасці прысвячаліся літаратурна-краязнаўчыя чытанні ў 1996 годзе ў вёсцы Гарбачэва паблізу яго радзімы на Расоншчыне і ў 1998 годзе ў Полацку, дзе ён вучыўся ў калегіюме. Летась у Віцебскім дзяржаўным універсітэце прайшла міжнародная навуковая канферэнцыя. Сёлета ўшанаванне прымеркавалі да 150-ых угодкаў са дня смерці славутага фальклярыста, паэта і пісьменніка. Пра гэта распавёў, пачынаючы вечарыну, сталы ўдзельнік прысвечаных памяці Яна Баршчэўскага імпрэзаў прарэктар Віцебскага дзяржаўнага універсітэта Анатоль Дарафееў.

Першым пунктам праграмы для гасцей было наведанне нядаўна адкрытага пры актыўным удзеле А.Дарафеева помніка класічнай паэме «Тарас на Парнасе» і яе аўтару Канстанціну Вераніцыну ў Гарадку, раённым цэнтры Віцебскай вобласці.

У ліку гасцей сёлета былі першы сакратар амбасады Рэспублікі Польшча ў Беларусі Петр Ганцарык, дырэктар Польскага інстытуту ў Мінску Цэзарый Карпінскі ды прафесар Варшаўскага універсітэту Аляксандр Баршчэўскі, добра вядомы яшчэ як беларускі паэт Алесь Барскі. Адам Мальдзіс, які ўпершыню браў удзел у прысвечаных Яну Баршчэўскаму ўрачыстасцях на Віцебшчыне і якому належыць прыярытэт у вяртанні ў беларускую літаратуру ягонага імя, распавёў пра свой досвед вывучэння ягонай творчасці ды пазначыў тыя кірункі, у якіх, на ягоную думку, трэба яшчэ працаваць наступным даследчыкам.

На вечарыне паэты чыталі свае вершы і пераклады з Яна Баршчэўскага, актрыса Нацыянальнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа Раіса Грыбовіч паказала кампазіцыю па адным з ягоных вершаў, выступіў фальклорны гурт «Ростань», гучалі спевы віцебскага барда Яўгена Савельева. Завершыліся ўрачыстасці ў Віцебскім тэатры «Лялька» спектаклем «Загубленая душа», пастаўленым па творах Яна Баршчэўскага.

**Міхал ЧАРВІНСКІ**

# «Адшукаць зацярушаны рай»

***115-я ўгодкі Міколы Равенскага***

20 снежня ў кінатэатры «Змена» адбудзецца прэзэнтацыя альбома «Магутны Божа» і паказ фільма «Успамін пра Міколу Равенскага», а таксама сустрэча з дачкой Равенскага Вольгай Мікалаеўнай, рэжысёрам фільма Уладзімірам Марозам і выдаўцамі музычнага альбома.

Гэты альбом «Магутны Божа» — працяг і важкае дапаўненне серыі «Беларускага музычнага архіву». На дыску прадстаўленыя 30 кампазіцыяў, агульны час гучання якіх – 78 хвілін. Першыя чатыры кампазіцыі — гэта чатыры версіі гімну «Магутны Божа»: 1) у выкананні хора і аркестра Гродзенскай капэлы п/к Ул. Форматава; 2) беларускага хора студэнтаў Лювэнскага універсітэту (Бельгія) п/к М.Равенскага; 3) камернага хора «Унія» (Мінск) пад кіраўніцтвам К.Насаева; 4) Пётры Конюха і Казачага хора п/к П.Жарава. Па словах аднаго са складальнікаў дыска, альбом атрымаўся ўрачысты і яскравы, творчасць кампазітара прадстаўлена шматгранна. Удалося прывесці ў парадак і запісы Равенскага. У асноўным іх прывезлі з Канады і Бельгіі, тры песні перадала дачка кампазітара з уласнага архіву. Варта адзначыць, што ў лік выканаўцаў увайшлі такія знаныя дзеячы, як Віктар Скарабагатаў, Ігар Алоўнікаў, Пётра Конюх і іншыя. Некаторыя песні выконвае дачка Равенскага (сапрана).

У альбоме ёсць як уласныя творы кампазітара — «Мой родны кут» (на словы Я.Коласа), «Пагоня» і «Слуцкія ткачыхі» (Багдановіча), — так і апрацоўкі народных песень.

**Ірына ТОЎСЦІК**

# Сімфанічны аркестр не выпусцілі на гастролі

Гастролі ў Італіі сімфанічнага аркестра Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі, якія планаваліся з 12 снежня па 9 студзеня, не адбыліся.

Як паведаміў у інтэрв'ю БелаПАНу мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор аркестра Анатоль Лапуноў, напярэдадні гастроляў удзельнікам аркестра было адмоўлена ў выездзе без тлумачэнняў з боку старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі Ягора Рыбакова. Паводле словаў Лапунова, усе спробы сустрэцца са старшынём і высветліць сітуацыю засталіся дарэмнымі: на прыём да яго трапіць так і не ўдалося. Афіцыйны ліст ад імя пасла Італіі ў Беларусі таксама застаўся без увагі.

Прапанова ад італьянскай фірмы «Белькантa» і непасрэдна яе кіраўніка і дырыжора – вядомага італьянскага імпрэсарыо Ніколы Джуліяні – прыехаць на гастролі ў Італію аркестр атрымаў у кастрычніку бягучага году. У лістападзе маэстра прыехаў у Мінск для рэпетыцый з сімфанічным аркестрам Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі Беларусі і хорам Sonorus. Для ажыццяўлення «грандыёзнага праекту» ён залучыў у Беларусь «найлепшыя вакальныя сілы» — сапрана Мар'яну Колпас (Румынія), тэнараў Вінчэнца Сансу, Сальваторэ Рыгалеззэ (Італія), мецасапрана Алену Раманенку, баса Валянціна Піваварава (Украіна), а таксама дырыжора Карла Фраезі (Італія). Да слова, усіх выканаўцаў Джуліяні запрасіў за свой кошт, аплаціў харчаванне, пражыванне і праезд. 5 і 6 снежня адбыліся два канцэрты — у актавай зале Лінгвістычнага універсітэту і ў Чырвоным касцёле.

Паводле словаў Лапунова, праект першапачаткова знаходзіўся пад патранатам пасольства Італіі ў Беларусі. Пасольства таксама пакрыла затраты па афармленні 130 візаў хору і аркестру. Аднак за некалькі дзён да выезду аркестра ў Італію старшыня тэлерадыёкампаніі Ягор Рыбакоў распарадзіўся адмяніць паездку музыкантаў.

Нікола Джуліяні, заклапочаны зрывам праекту, звярнуўся да аркестрантаў з просьбай «паехаць на гастролі». Галоўны дырыжор паведаміў, што «знайшліся 24 смельчакі, якія зразумелі ўсю складанасць сітуацыі, якая невядома як можа адбіцца на характары не толькі культурных адносін паміж нашымі краінамі». Складанасць сітуацыі ў тым, што заявы аркестрантаў аб прадастаўленні адпачынку за свой кошт не былі падпісаны вышэйшым начальствам, на іх стаіць толькі подпіс кіраўніка калектыву. «Што з музыкантамі будзе далей – самае сур'ёзнае пытанне. Я заклапочаны лёсам аркестрантаў і баюся, каб іх не пакаралі, не звольнілі», — адзначыў Лапуноў.

**Даведка БелаПАНу.** Сімфанічны аркестр Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі існуе з 1958 году. Анатоль Лапуноў працуе ў аркестры з 1992 году.

Асноўная праца сімфанічнага аркестру — запіс музыкі беларускіх кампазітараў/

Раней аркестр часта выступаў. Паводле словаў Лапунова, «давалі каля 5-6 канцэртаў у год».

**Маша ПЯТРОВА**

# Новыя выданні «Беларускага кнігазбору»

17 снежня ў Грамадскім прэсцэнтры Дома прэсы ў Мінску адбылася прэзэнтацыя новых кніг па гістарычнай тэматыцы, выпушчаных выдавецтвам «Беллітфонд», «Беларускі кнігазбор» і «Юнацтва».

Як адзначыў на прэзэнтацыі пісьменнік Кастусь Цвірка, у «Беллітфондзе» у серыі «Беларускі гістарычны раман» нядаўна выйшаў з друку дакументальны раман Алеся Пашкевіча «Пляц волі» ў двух кнігах, заснаваны на малавядомых старонках айчыннай гісторыі. Яго першая кніга - «І дам табе вянок жыцця» - прысвечана падзеям беларускага нацыянальнага адраджэння ў 20-я гады ХХ стагоддзя, у прыватнасці, - старонкам барацьбы народа за волю і незалежнасць у дні Слуцкага ўзброенага чыну. У другой кнізе - «Хто волі прагне» - аўтар прадставіў вядомых асветнікаў нацыі, сярод якіх - Максім Багдановіч, Алесь Гарун, Ядзвігін Ш., Янка Купала, Усевалад Ігнатоўскі, Уладзімір Дубоўка, Адам Бабарэка, Вацлаў Ластоўскі, Раман Скірмунт, Кастусь Езавітаў і Паўліна Мядзёлка. «Пляц волі» - другая кніга серыі, якую адкрыў вядомы раман Уладзіміра Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні».

Чарговымі выданнямі гэтай цікавай серыі стануць раман «Драбы» Уладзіміра Случанскага і эпічная трылогія «Альгердава дзіда» Вольгі Іпатавай, прысвечаныя сярэднявековым рыцарам Вялікага княства Літоўскага.

Кастусь Цвірка таксама адзначыў нядаўна выйшаўшае з друку на беларускай мове фундаментальнае выданне вядомага айчыннага гісторыка Міколы Ермаловіча «Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае». «Толькі дзякуючы вучонаму мы даведаліся пра сапраўднае наша мінулае, раней сфальсіфікаванае гісторыкамі ад палітыкі», - падкрэсліў пісьменнік. Паводле яго слоў, зараз плануецца выхад рускамоўнага выдання гэтай працы. Гэта адна з тых навуковых кнігаў, якія прыняты шырокай аўдыторыяй і для мноства людзей сталі сапраўднай «брамай» любові да роднай мінуўшчыны.

У ілюстраваным выданні «Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржавы», якое выйшла з друку ў «Беларускім кнігазборы», прадстаўлены азы сапраўднай гісторыі народа, зазначыў Кастусь Цвірка.

Пісьменнік Алесь Камароўскі пазнаёміў журналістаў з новымі кнігамі выдавецтва «Юнацтва». Сярод іх - працы Алеся Марціновіча пра Еўфрасінню Полацкую і Сімяона Полацкага, выданне твораў выдатнага пісьменніка, рэпрэсіраванага « гады сталінскага тэрору Вацлава Ластоўскага «Бяздонное багацце», Генрыха Далідовіча «Кліч роднага звона», трылогія Леаніда Дайнэкі пра гісторыю Полацкага княства, а таксама «Белая Русь. Лягенды і паданні».

У планах выдавецтва - выпуск кніг Кастуся Цвіркі «Беларусь у лягендах», гістарычныя эсэ Вітаўта Чаропкі «Постаці Беларусі», Міколы Маляўкі «Сядзіба, або хата з матчынай душой» і гістарычных эсэ вядомага гісторыка і пісьменніка Сяргея Тарасава «Фрэскі», ілюстраваных Міколай Купавам

**Марат ГАРАВЫ**

# Семінар па прышчапленні духоўнасці

20 снежня ў авальнай залі сталічнага Дому літаратара Навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны ладзіць міжнародны семінар «Хрысціянская духоўнасць і сучаснае беларускае грамадства». На яго запрошаны не толькі навукоўцы, але і прадстаўнікі шэрагу міністэрстваў і ўсіх хрысціянскіх канфесій, прадстаўленых у нашай краіне.

На семінары будуць абмеркаваныя распрацаваныя ў Скарынаўскім цэнтры канкрэтныя спосабы па маральным аздараўленні і духоўным развіцці беларусаў.

На думку дырэктаркі Цэнтру Любові Уладыкоўскай-Канаплянік, «нягледзячы на знешні рэлігійны рэнесанс – напрыклад, павелічэнне колькасці храмаў, беларускае грамадства застаецца секулярызаваным, абязбожаным. Ідэалагічны вакуум, ідалапаклонства, культ гвалту, актывізацыя горшых аспектаў масавай культуры, парнаграфія, сексуалізацыя, наркаманізацыя насельніцтва ствараюць сур'ёзную небяспеку для агульнанацыянальнага развіцця, асабліва ў маладзевым асяродку. Гэта прыводзіць да дэзінтэграцыі, дэстабілізацыі грамадства і пашырэння дэструкцыйных ідэй».

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

# Калядная выстава

У Гродне адкрылася калядная выстава. На ёй прадстаўлены творы 14 мастакоў, а таксама скульптараў А.Анціпіна, У.Панцялеева, А.Салятыцкага, кераміста Я.Адзіночанкі і каваля Ю.Мацка.Мастацтвазнаўца М.Загідуліна распавядала пра выстаўленыя творы. Настаяцель Каложы айцец Аляксандр расказаў пра нараджэнне Хрыста і пра Вавілонскую вежу. Вікарый Фарнага касцёлу айцец Віктар выклаў гісторыю калядных шопак і падараваў выставе шопку са сцэнай нараджэння Езуса. Анёлам-ахоўнікам выставы стала маленькая Радаслава Мацко, якая была ў строі з анёльскімі крыламі і трымала ліхтарык з запаленай свечкай.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Другі паверх для лялек

Тэатр лялек – адзіны ў сталіцы тэатр, чый будынак мае ўсяго адзін паверх. Натуральна, заціснутасць плошчаў вымагае другога. Адмысловае рашэнне міністэрства культуры сёлета якраз прынятае.

Як паведамілі ў адміністрацыі лялечнага тэатра, зараз распрацоўваецца праект надбудовы па Энгельса, 20 яшчэ аднаго паверха. Будаўнічыя работы, як мяркуецца, пачнуцца ў наступным годзе. На дадзены момант яшчэ невядома, ці застанецца тэатр падчас іх у гэтым будынку, ці рэканструкцыя будзе адбывацца з высяленнем, калі трупа павінна будзе альбо арэндаваць нейкую іншую сцэну, альбо перапыніць на нейкі тэрмін, што малаверагодна, паказы спектакляў.

Дзяржаўны тэатр лялек створаны ў 1938 годзе ў Гомелі. Адкрыўся ён спектаклем «Па шчупаковай волі». Падчас вайны пераехаў у Душанбэ, потым вярнуўся назад у Гомель, дзе ў 1949 годзе на цэлы год спыніў сваё існаванне. Аднаўлены ўжо ў Мінску.

Кірыла ПАЗЬНЯК

# «Хавайся ў бульбу»

Так называецца новы альбом легенды беларускага рок-энд-блюзу – гурта «КРАМА». Пасля доўгага крызісу ў сваёй творчасці гурт нарэшце ўздыхнуў на поўныя грудзі паветрам новых ідэй. Новы, з сямю новымі кампазіцыямі, альбом упершыню запісаны не на касеце, як гэта рабілася раней і псавала гучанне голасу І.Варашкевіча (запявалы гурта), а на якасным дыску.

Толькі дзве старыя песні патрапілі ў альбом. «Стары сабака» – па просьбе Варашкевіча, а «Гэй, там налівай!» – па просьбе Рамана Арлова, прадзюсера музычнай студыі «Бульба Рэкардз», які запэўніў, што дзякуючы гэтай песні альбом будзе мець поспех і ў Расіі. Як бы ні пераконвалі ўсіх слухачоў і самі музыканты, што гэта новы альбом, але неўключэнне ў яго песні «Слуцкая брама» – пачатка памылкі на гэтым дыску. «Слуцкая брама» – самая хітовая і найстарэйшая песня яшчэ з гадоў непераможнай «Бонды».



Доўгі перапынак не нанёс ніякай траўмы стылявому накірунку гурта, ён застаўся верным сваёй традыцыі, толькі дзе-нідзе з элементамі папснявасці. Ну, гэта для прасоўвання ў «народ», як кажа В.Супрановіч, старшыня БМА, адзін з выдаўцоў дыску. Сапраўды, не адбылося жаданай сенсацыі, проста ўражанне, што не было перапынку і гурт працягвае сваю звычайную музычную дзейнасць. Так, дзесьці пастарэў склад гурта: не тое здароўе, не той запал, асабліва пасля выбараў, у кампаніі якіх гурт прымаў актыўны ўдзел.

Кампазіцыі на дыску больш-менш роўныя па музычным узроўні, узроўні яшчэ той бадзёрай «КРАМЫ». Выбіваюцца з гэтага рок-рытму толькі сучаснаматыўная «Хавайся ў бульбу» і традыцыйна-баладная «Падае дождж», якая проста «апранае» гурт у новыя ўбранні нераўэзыдзеных рамантыкаў, няхай ужо і сталага веку.

Яшчэ адна адметнасць гэтага альбому – гэта першая песня «Сябра мой Вярэніч Лёнік» і апошняя – «Гэй, там налівай», у якой утрымліваецца глабальны сэнс нашай нацыі.

Ірына ТОЎСЦІК

# Літаратурнае «бязмежжа»

14-15 снежня ў Гайнаўцы на Беласточчыне адбыліся літаратурныя сустрэчы пад назвай «Бязмежжа». Яны праводзяцца штогоду і прысвячаюцца развіццю беларускай літаратуры ў Беларусі і Польшчы, а таксама беларуска-польскаму літаратурнаму супрацоўніцтву. Аб літаратурным працэсе на Беласточчыне расказаў галоўны рэдактар часопіса «Правінцыя» Аляксандр Максімюк. Усяго з Беларусі было восем удзельнікаў – пераважна паэты і барды. У дыскусіі браў удзел галоўны рэдактар беластоцкага польскага літаратурнага часопіса «*Kartki*» Богдан Дудко. А.Максімюк паведаміў, што рыхтуецца новы нумар часопіса «Правінцыя», які павінен з'явіцца на пачатку будучай вясны. «Бязмежжа» арганізаваў Беларускі саюз у Польшчы, а фінансавала польскае міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны.

Сяргей МАКСІМОВІЧ

# Беларус супраць кітайцаў

Першая некалі ракетка свету па настольным тэнісе, наш суайчыннік Уладзімір Самсонаў, відаць, усур'ёз намерыўся вярнуць сабе гэты статус у пінг-понгу.

У апублікаваным днямі Міжнароднай федэрацыяй настольнага тэнісу рэйтынг-лісце беларус знаходзіцца ўжо на другім радку – у папярэднім рэйтынгу У.Самсонаў быў на трэцяй пазіцыі. Цяпер перарадзе нашага тэнісіста толькі кітаец. Дарэчы, наступныя тры месцы за Уладзімірам Самсонавым займаюць таксама кітайскія спартоўцы. А наогул, апрача беларускага тэнісіста, у дзесятцы лепшых у настольным тэнісе толькі двое еўрапейцаў – швед і аўстрыец. Яшчэ адзін беларус Яўген Шчацінін адкрывае ў рэйтынг-лісце восьмы дзесятак.

У жанчын таксама ў лідэрах прадстаўніцы Азіі. У дзесятцы толькі дзве еўрапейкі – харватка і румынка. Лепшая з беларускіх тэнісістак – Веранiка Паўловіч – на 38-ым месцы. Яшчэ тры нашых спартсменкі – у сотні наймацнейшых.

Алесь КАТОВІЧ

# Патраціш на спорт – зберажэш на леках

*900 тысяч чалавек, альбо 9% беларускага насельніцтва, альбо кожны дзесяты сярод нас, згодна з дадзенымі міністэрства спорту і турызму, займаецца якім-небудзь з відаў спорту. Іншымі словамі, вядзе актыўны лад жыцця.*



Як і мае быць, моладзь – самая актыўная частка насельніцтва – трымае тут лідэрства. З трох спартоўцаў-аматараў два – гэта юнакі. Яны і на пад'ём лягчэйшыя, і вольнага часу маюць больш. Астатняя трацiна за дарослымі. У іх на фоне іншых неадкладных справаў значнасць спорту настолькі драбнее, што толькі адзінкі знаходзяць пару вольных гадзінак на тыдзень, каб размяцца на спартовай пляцоўцы.

Натуральна, што тут не ідзе гаворкі пра спорт вышэйшых дасягненняў, дзе спартоўцы кладуць сваё здароўе, здабываючы для краіны медалі і прэстыж на міжнароднай арэне. Для іх жыццё праходзіць у шматгадзінных трэніроўках, нервовай напрузе, фізічных перагрузках, а таму сама менш трацiна прафесійных спартоўцаў мае сур'ёзныя праблемы са здароўем.

Калі ўзяць за аснову толькі адзін крытэрый – палепшае здароўе, то вынікае, што ад развіцця масавага спорту дзяржаве больш карысці.

Варта зацікавіць юнакоў тым жа футболам ці адзінаборствамі – і няма праблемаў з арганізацыяй іхняга вольнага часу. Даросламу пара гадзін у спартовай залі пасля працы здыме стрэс і стому, а калі глядзець у перспектыву, прадукцыйнасць працы ад гэтага толькі выйграе. Прызвычаішся да прабежак перад сном альбо да наведвання трэнажорнай залі ў абедны перапынак, і глядзіш – эпідэмія грыпу міне для цябе незаўважнай.

Трэба канстатаваць, што для беларускага менталітэту нават мінімальная спартовая актыўнасць, як і павага да ўласнага здароўя, зусім не характэрны. Сярод радасцяў жыцця сярэдняга беларуса – 20 шклянак гарэлкі і 50 шклянак піва на год, пачак цыгарэтаў на два дні. І штовечар тэлевізар. Заняткі спортам ніяк сюды не ўпісваюцца. «На вуліцах часцей пабачыш п'яных, чымсьці бегуноў, і то на іх тыкаюць пальцамі, як на нейкае дзіва», – сказаў неяк міністр аховы здароўя Уладзіслаў Астапенка. І ён мае рацыю. Толькі ў школьных і студэнцкіх часы ўся моладзь ахоплена фізкультурнымі заняткамі, бо хочаш альбо не, а на 3-4 гадзіны на тыдзень на спартовай пляцоўцы мусіш з'яўляцца. А далей – ці то фізкультурныя праграмы так складзеныя, што не будзяць у іх цікавасці да спорту, ці ўвогуле выхаванне не прышчэпвае юнакам павагі да здаровага ладу жыцця, аднак па-за сценамі сваіх ПТВ і ВНУ толькі адзін з чатырох юнакоў па сваёй ахвоце працягвае цікавіцца якім-небудзь відам спорту.

Як вынік, усё часцей хварэем, а дзеці – палова з якіх, ідучы ў першы клас, ужо маюць адхіленні ў здароўі – з кожным годам зарабляюць сабе новыя хваробы. У ВНУ ўжо 30% студэнтаў па стане здароўя адносяцца да падрыхтоўчай і спецыяльнай медычных групаў. А з іншага боку, кожны трэці з прызыўнікоў у 2000 годзе не здолеў выканаць патрабаванні па фізічнай падрыхтоўцы.

Як будуць праходзіць заняткі па фізкультуры ў той жа школе ці тэхнікуме – у занудных падрыхтоўках да здачы абавязковых нарматываў альбо ў басейне ці трэнажорнай залі – гэта залежыць ад магчымасцяў самой вучэльні.

А тут, асабліва што да басейнаў, пахваліцца няма чым. На пачатак 2001 году на 105 школаў краіны прыпадала па 1 басейне. Яны ёсць толькі ў 10 ВНУ, у адным тэхнікуме, аніводнага басейна няма ў ПТВ і дзіцячых садках. Са спартовымі залямі крыху лепш: ВНУ, ПТВ і школы імі забяспечаныя прыкладна на 50%, а тэхнікумы – на 30%.

Шукаючы магчымасці займацца тым відам спорту, што даспадобы, юнакі «перацякаюць» у клубы і спартовыя збудаванні, што месцяцца бліжэй да дому. Займацца там можа кожны ахвотны – «і стары, і малы». Аднак так атрымліваецца, што, напрыклад, з 7 тысяч наведнікаў толькі 2 тысячы – людзі дарослыя. Між тым, якраз у такіх секцыях наведнікаў апошнімі гадамі значна прыбывае: з 1998 да 2000 году іх колькасць вырасла ўтрая, з 5 да 15 тысяч чалавек.

Найбольшай папулярнасцю карыстаюцца атлетычная гімнастыка, аэробіка, шэйпінг. Якраз гэтыя віды спартовых заняткаў прыцягваюць як магніт у спартовыя залі значную колькасць жанчын. Згодна з праведзеным у адным са сталічных ВНУ апытаннем, 90% студэнтак вызначылі спорт для сябе як сродак карэкцыі фігуры. А імкненне быць прыгожай незалежна ад узросту пераадолее і лянoту, і недахоп часу, і шмат іншых перашкодаў. Аналагічныя тэндэнцыі пануюць і сярод мужчын: мода на рэльефнае мужчынскае цела трымае на сабе ўвесь бізнес уладальнікаў трэнажорных заляў. Увогуле імкненне да вонкавай дасканаласці – гэта адметная рыса цяперашніх аматараў спорту. Хай так, але, можа, і гэта дазволіць каму-небудзь захаваць крыху здароўя.

З 4,6 мільёна чалавек, якія вызначаюцца ў нас як эканамічна актыўнае насельніцтва, па звестках міністэрства спорту і турызму, толькі 5% наведваюць спартовыя секцыі па месцы працы. Гэта ўжо дарослая, а таму найменшая група спартоўцаў-аматараў. Дзіва дзіўнае – пабачыць дарослага чалавека, які на працу едзе на веласіпедзе альбо пасля працоўнага дня замест піўнушкі зварочвае ў спартовы клуб. Пры цяперашняй эканамічнай сітуацыі не кожнае прадпрыемства можа дазволіць сабе басейн, спартовую пляцоўку ці стадыён. Падлічылі, што на ўсіх прадпрыемствах, калгасах і саўгасах краіны, сярод іншага набяром 83 басейны (9 з іх належаць калгасам), 80 стадыёнаў, 75 ціраў і нават 3 спартовыя збудаванні са штучным ільдом.

Спецыялісты *UNESCO* неяк падлічылі, што ўкладзены ў фізкультуру 1 даляр эканоміць 3,2 даляра медычных выдаткаў.

Здавалася б, нашай, мякка кажучы, незаможнай дзяржаве над гэтым трэба было б сур'ёзна паразважаць. Аднак насамрэч апошнімі гадамі акрэсліліся зусім супрацьлеглыя тэндэнцыі. На фізічнае выхаванне студэнтаў дзяржаўная падтрымка за два апошнія гады скарацілася ў 30 разоў: з 3,1% ад агульнага аб'ёму сродкаў, што выдаткоўваюцца на спорт у краіне, да 0,11% у 2000 годзе.

У 18 разоў скараціліся дзяржаўныя інвестыцыі ў здароўе школьнікаў і ў 15 разоў – у здароўе зусім маленькіх беларусаў. Няцяжка здагадацца, якога стану здароўя варта чакаць ад нацыі праз пару дзесяцігоддзяў.

Затое цяпер, заняўшыся ўласным здароўем самастойна, мы маем магчымасць спазнаць сапраўдны яго кошт. За асалоду паплюхацца ў басейне 45 хвілін, напрыклад, у комплексе «Алімп» трэба заплаціць 2,5 тысячы рублёў (разам з саўнай на гадзіну – 6 тысяч), у «Лазурным» – 1,5 тысячы, у Палацы воднага спорту для дзяцей і моладзі – мужчынам 2,2 тысячы, а жанчынам 3,2 тысячы. «Дыскрымінацыя» жанчын тлумачыцца тым, што яны чамусьці, у адрозненне ад мужчын, за гэтыя ж грошы маюць права папарыцца яшчэ і ў саўне.

За адно наведанне трэнажорнай залі, напрыклад, у фізкультурна-аздараўляльным комплексе «Серабранка» давядзецца аддаць ад 3,5 да 4,5 тысяч у залежнасці ад часу, аднак трэнажорных заляў па горадзе адчыняецца досыць, таму можна знайсці і ўдвая таннейшую. Жанчынам, каб заняцца выпраўленнем хібаў сваёй фігуры, трэба аддаць не менш як 21 тысячу рублёў за месячны абанемент на шэйпінг, а магчымасць пакатацца на штучным лёдзе ў Лядовым палацы (дзе, дарэчы, на лёд хоць і выпускаюць адначасова не больш за 160 чалавек, але і іх дастаткова, каб адчуць вялікую цеснату) зававажыць на 2 тысячы рублёў, плюс 2,5 тысячы – пракат канькоў.

Калі ні ў чым сабе не адмаўляць, сума атрымаецца досыць заўважнай для сямейнага бюджэту. Аднак здароўе ад гэтага стане яшчэ больш каштоўным.

Алена ЛАБАНАВА

# 108 адкрытых каткоў

У адпаведнасці з распараджэннем Мінгарвыканкаму «Аб арганізацыі правядзення зімовага спартыўнага сезона 2001-2002 гг.» і адпаведнымі рашэннямі раённых адміністрацый у Мінску павінны быць абсталяваны 23 хакейныя каробкі, 112 каткоў для масавага катання і 14 лыжных трас з пунктамі пракату.

Як паведаміў БелаПАНу начальнік арганізацыйна-масавага аддзелу ўпраўлення па фізічнай культуры, спорту і турызму Мінгарвыканкаму Сяргей Злобіч, сёння гатовы 19 хакейных каробак, 17 лыжных трас, 38 лыжных баз, 108 адкрытых каткоў, а таксама 13 пунктаў пракату і 8 пунктаў заточкі канькоў. Вялікія раённыя каткі размешчаны на стадыёнах «Тарпеда» «МАЗ», «Лакаматыў», «Камвольшчык», «МАПІД» і ля школ па адрасах: вул. Слабадская, 101; вул. Бяды, 9; вул. Каліноўскага, 50/2; вул. Чапаева, 11. Агульнагарадскі каток, які адначасова ўмяшчае да 700 чалавек, заліты ля Палаца спорту на праспекце Машэрава. На пералічаных катках ёсць вячэрняе асвятленне, гучыць музыка, дзяжураць медыкі і інструктары па катанні. А ля агульнагарадскага катка, апрача гэтага, працуюць кавярня і два біятуалеты.

Наведванне адкрытых каткоў бясплатнае, разавы пракат канькоў абыходзіцца ў 2-3 тысячы рублёў за гадзіну. А па адрасе праспект Ракасоўскага, 49 можна ўзяць напракат дзіцячыя канькі на месяц за 5 тысяч рублёў.

Лавінія АРЭШКА

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі.
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдадзена з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1798 Нумар падпісаны ў друк 18/12/2001 (15:00) Наклад – 9.090